ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 11 (2361) 17 сакавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 30 рублёў.

АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ Лідзіі САВІК "ВЯРТАННЕ"



## З АДНАГО НАРОДА



**Дакрананне да вялікага робіць больш значным нават самага звычайнага. Мусіць таму так зачароўвае і захапляе асоба Барыса Кіта кожнага, хто з ім сустракаецца, прымушае адчуваць гордасць за тое, што ўсе мы дзеці аднаго народа -- беларускага.**

**У пачатку года ў "Бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы" выйшла кніжка Лідзіі Савік "Вяртанне", прысвечаная няпростаму і слаўнаму жыццёваму шляху нашага земляка Барыса Кіта. І зусім нядаўна ў Беларускім універсітэце культуры адбылася прэзентацыя гэтага твора.**

**Многа незвычайнага ў згаданай падзеі: герой кніжкі эмігрыраваў у час другой сусветнай вайны, і ўсё ж яшчэ пры жыцці яго імя ўшанавана на Радзіме.**

**-- Ці не сніцца мне гэта вечарына?! -- усклікнуў у пачатку свайго выступлення Адам Мальдзіс. Ён назваў нашага земляка адным з бацькоў амерыканскай астранаўтыкі і сказаў, што вучоны такога ўзроўню робіць гонар любой краіне.**

**А мы столькі гадоў не толькі не ганарыліся, а нават не рашаліся вымаўляць імя Барыса Кіта. Ён жа ў любых абставінах дбаў аб сваёй Бацькаўшчыне і служыў ёй. Нават калі ў гады вайны ўзначальваў гандлёва-прамысловую школу ў Маладзечне, ён рыхтаваў кадры для будучай Беларусі. Яшчэ і сёння жывыя яго вучні, і надзвычай цёплай і сардэчнай была яго сустрэча з імі на роднай зямлі.**

**Жорж Альберт Кроль, саветнік Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі, сказаў, што Барыс Кіт надзвычай вядомы ў ЗША. Вучоны -- агульная гордасць, нацыянальнае багацце амерыканцаў і беларусаў. "Барыс Кіт -- ваш зямляк, наш грамадзянін, -- сказаў Ж.А.Кроль. -- Гісторыя яго жыцця цікавая і трагічная. Ён вельмі важны не толькі для вас, але і для амерыканцаў".**

**На прэзентацыю прыйшлі пісьменнікі, вучоныя, кіраўнікі міністэрстваў, журналісты, студэнты, каб парадавацца вяртанню ў нашу навуку, культуру, свядомасць яшчэ аднаго слаўнага імя.**

**Лідзія Савік расказала пра свае незабыўныя сустрэчы з Барысам Кітом, пра работу над кніжкай і пачуццё задавальнення, што зроблена добрая справа.**

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале, дзе адбывалася падзея; расказвае Лідзія САВІК; студэнты універсітэта культуры выступілі перад прысутнымі з канцэртам.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



СПАДЧЫНА

## А У НАС СЁННЯ МАСЛЕНІЦА...

**А у нас сёння Масленіца,**
**Прыляцела ластавіца.**
**Села-пала на жэрдачку,**
**Шчабятала вестачку...**

Шчабятала аб тым, што зіма здае нарэшце свае правы, што набліжаецца вясна, якую з нецярплівасцю чакае ўсё жывое на зямлі. Масленічны абрад і накіраваны на хутчэйшы надыход вясны і цяпла, на забеспячэнне сялянскай працы ў полі, на ўрадлівасць нівы, на здароўе і лад у сям'і.

Масленіца паўсюдна адзначалася за сем тыдняў да Вялікадня і заканчвалася напярэдадні доўгага перадвелікоднага посту. З вялікім нецярпеннем чакалі Масленіцу. Гэта адно з самых цікавых, вясёлых і сапраўды ўсеагульных свят, якое працягвалася цэлы тыдзень. У розных раёнах Беларусі Маслены тыдзень і зваўся па-рознаму -- Запусты, Сырны тыдзень, Развітальны, Крывы, Пусты. Практычна кожны дзень быў запоўнены святочнымі справамі, абрадавымі і неабрадавымі дзеяннямі, традыцыйнымі гульнямі і забавамі. Сіл, запалу і фантазіі хапала на ўсё, паколькі панавала атмасфера ўсеагульнай радасці і вяселля. У кожнай вёсачцы Масленіцу адзначалі пасвойму, нярэдка святкаванне зводзілася да выканання адной-дзвюх абрадавых дзей, але, сабраныя разам, яны прадстаўляюць нам багатую, змястоўную, цікавую ўрачыстасць-гульню.

Масленка вядомая ўсім славянскім народам, і кожны прыўносіў нешта сваё, арыгінальнае. Так, у суседніх з Беларуссю расейскіх абласцях аб належнай сустрэчы і адпаведным правядзенні ўсяго свята пачыналі клапаціцца яшчэ з суботы папярэдняга тыдня. Хлапчукі, схапіўшы ўжо спечаны блін, выбягалі на агарод, сядалі верхам на чапялу ці на вілкі і скакалі з крыкамі:

**Бывай, зіма саплівая!**
**Прыходзь, лета краснае!**
**Саху, барану --**
**І араць пайду!**

Меншыя бегалі па ўсёй вёсцы і збіралі старыя лапці, потым сустракалі дарослых, якія вярталіся з горада ці кірмашу, з пытаннем: "Ці вязеш Масленіцу?" Хто адказаў: "Не", таго лупцавалі лапцямі.

Ну а якая ж Масленка без бліноў?! Іх напякалі яшчэ загадзя -- цэлы стос. Бліны шчодра палівалі маслам -- "масла на стале, Масленіца на двары". Мусіць, менавіта са шчодрым ужываннем масла і звязана сама назва свята. Ды і ў песнях чуем: ластавіца "прыляцела на Масленіцу, села-пала на калу, кінула масла па каму, хто ўловіць, дык таму". Першы блін, яшчэ цёплы, клалі на акно супраць печы і казалі: "Вось вам, бацька і матка, блін". Гэты блін прызначаўся для продкаў, душы якіх, паводле народных уяўленняў, прыходзілі на Масленку ў родныя хаты і сілкаваліся парай ад Цёплага бліна.

Хаця яшчэ паўсюдна ляжаў снег, селянін-гаспадар ужо думаў аб будучай сяўбе, аб ураджаі. Прыкмячалася пара, на якую прыпадала свята: "Масленіца ў вятху -- дзяржы пшаніцу ў мяху, сей пшаніцу ва ўсю руку, калі Масленіца ў маладзіку". Дзяўчаты насілі хусткі з доўгімі махрамі, каб такі ж доўгі вырас лён. І, наогул, для таго каб лён быў рослы і добры, лічылася неабходным і катацца з гары на санках як мага далей, і як шпарчэй, навыперадкі ездзіць на конях. Для таго ж на Віцебшчыне раней з'язджалі з гары на прасніцы. І калі гэта не атрымлівалася, жанчына падала, то ўспрымалася як нядобры знак, бо прадвяшчала ёй няўдалую ўборку лёну ці нават смерць.

З клопатам аб даўжыні лёну паўсюдна ладзілі арэлі, гушкалкі і гойдаліся як мага вышэй. Трэба адзначыць, што многія абрадавыя дзеянні, накіраваныя на забеспячэнне ўрадлівасці глебы, адначасова неслі ў сабе ідэю клопату аб прадаўжэнні роду, аб чалавечай плоднасці, умовай якіх з'яўлялася стварэнне шлюбнай пары. Гэтак і абраднасць Масленіцы ўяўляе сабой арганічнае перапляценне аграрных і шлюбных матываў. Дзяўчаты, гойдаючыся на арэлях, верылі, што гэта патрэбна для даўжыні льну, а таксама для будучага ўдачлівага замужжа:

**Скалыхніце мяне**
**высока-высока,**
**Каб я відзела мілага**
**далёка-далёка,**
**Дзе мой міленькі**
**гуляець,**
**Мяне, маладую, пакідаець.**

Так спявалі ў Чашніцкім раёне.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ДА ВЫСОКІХ СТАНДАРТАЎ

## СУЦЭЛЬНАЯ ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ

Савет Міністраў ухваліў прадстаўленую Міністэрствам сувязі і інфарматыкі Праграму развіцця сродкаў сувязі Рэспублікі Беларусь да 2000 года. Прадугледжваецца далейшае развіццё і мадэрнізацыя сродкаў электрасувязі, тэлебачання і радыёвяшчання, а таксама сродкаў паштовай сувязі і распаўсюджвання друку. Плануецца, у прыватнасці, забяспечыць да 2000 года ў гарадах рэспублікі ўстаноўку тэлефонаў у 90 працэнтаў кватэр (сем'яў) і тэлефанізацыю сельскай мясцовасці з разліку 45 тэлефонаў на 100 сем'яў у сярэднім, што з'яўляецца даволі высокім паказчыкам па сусветных стандартах. Агульны аб'ём капіталаўкладанняў вытворчага прызначэння на рэалізацыю праграмы ацэньваецца ў 384,5 мільёна ўмоўных долараў.

У ПРАЦЭНТАХ

## ПАРТРЭТ УЛАДЫ

Сацыяльны партрэт прадстаўнікоў мясцовай улады дазваляюць абрысаваць даныя даследавання, праведзенага сацыёлагамі Белдзяржуніверсітэта.

У большасці сваёй гэта мужчыны -- 76,8 працэнта, жанатыя -- 94,0 працэнта, беларусы -- 81,9 працэнта, з вышэйшай адукацыяй -- 94,8 працэнта. Іх сярэдні ўзрост -- 44 гады. Па сацыяльнаму паходжанню гэта перш за ўсё сяляне -- 45 працэнтаў. Выхадцаў з рабочых аказалася 21,8 працэнта, і толькі 12,41 працэнта -- са служачых.

Прычым у большасці апытаных бацькі не займалі ў свой час якіх-небудзь грамадскіх пасад.

НА ВІЛЕНСКІМ РЫНКУ

## ВІЗА — НЕ ПЕРАШКОДА

Увядзенне Літвой візавага рэжыму не спалохала дробных гандляроў, якія вязуць у Вільню ўсё на продаж -- ад хлеба ды смятаны да розных іншых практычных рэчаў. Таму на літоўска-беларускай мяжы паток пасажыраў, што едуць у Літву, амаль не зменшыўся пасля 1 сакавіка.

"Карабейнікі" прыгранічных раёнаў Беларусі плацяць 7 долараў ЗША за аднаразовую візу, сапраўдную на працягу 10 дзён. Але выручаюць яны за адзін дзень значна больш. Выходзіць, што мы забяспечым Літву не толькі харчамі, але і доларамі. Толькі за адзін дзень на пагранічнай станцыі Кена купляюць візы да 200 чалавек.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## РЭКЕТ ПА-НАВАПОЛАЦКУ

Не паспелі пасяліцца ў навапалацкай гасцініцы "Дзвіна" двое мужчын з Прыбалтыкі, як на другі дзень іх выкралі мясцовыя "мафіёзі". Злачынцы, што кантралююць бізнес у гэтым горадзе, хутка вылічылі мэту прыезду прыбалтаў: прадаць аўтамабіль. Рэкеціры адвезлі выкрадзеных да сябе дамоў і трымалі іх двое сутак, пакуль не дабіліся ад змучаных заложнікаў патрабуемага. Затым, пакінуўшы аднаго з іх, злачынцы з другім паехалі на таможню уладжваць дакументальныя фармальнасці. Там рэкеціраў і "ўзялі" супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Пры вобыску ў іх выяўлены абрэз, пісталет з патронамі, карабін нямецкай вытворчасці.

ГРОШЫ НЕ ПАХНУЦЬ

## ГАНДАЛЬ... РАДЫЯЦЫЯЙ

На два гады турэмнага зняволення асуджаны прадавец брудных журавін Н. Загадзя ведаючы, што тавар не адпавядае ўстаноўленым радыелагічным стандартам, ён усё ж спрабаваў збыць яго.

Як сведчаць спецыялісты Гомельскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, гэта не адзіны факт гандлю недабраякаснымі прадуктамі. Асабліва папулярнае ў камерсантаў мяса ласёў і дзікоў. У гэтым годзе радыелагічная лабараторыя забракавала практычна ўсе трафеі гомельскіх паляўнічых.

БЯЗДОМНЫЯ

Раптам сталі бомжамі члены сям'і вадзіцеля Аляксандра Дольнікава.

У 1990 годзе ў вёсцы Бель Крычаўскага раёна згарэў дом, дзе Аляксандр жыў з жонкай Валянцінай і пяццю малалетнімі дзецьмі. З таго часу і туляцца сям'я па розных кутах, шукаючы прытулку. Звяртаўся Аляксандр да кіраўніцтва крычаўскага аўтапарка, дзе ўжо 24 гады працуе шафёрам, а дапамогі так і не дачакаўся. Пісаў у газеты -- маўчанне. Дапамагла толькі нямецкая дабрачынная місія "Табея" -- выдзеліла адзенне і прадукты. А дзе жыць!!

Можа, хоць у Міжнародны год сям'і, аб'яўлены ААН, улады нарэшце пачуюць просьбы сям'і А. Дольнікава. І дапамогуць.

НА ЗДЫМКУ: сям'я А. ДОЛЬНІКАВА ля свайго часовага прытулку.



МІЛАСЭРНАСЦЬ



Нямецкая хрысціянская місія "Табея" шырока вядомая сваёй дабрачыннай дзейнасцю. Бясплатна шле яна медыкаменты, адзенне, харчаванне ў "гарачыя пункты" -- Югаславію, Арменію, Грузію. Ёсць філіял "Табеі" і ў Магілёве. Яго супрацоўнікі часта бываюць у раёнах, паражоных Чарнобылем, выясняюць, чым і як можна дапамагчы пацярпеўшым людзям, асабліва дзецям.

НА ЗДЫМКУ: прэзідэнт нямецкай хрысціянска-дабрачыннай місіі "Табея" Мікалай КЛАСЕН (злева) і дырэктар Магілёўскага філіяла Павел БРОДАЎ удакладняюць адрасы пастаўкі гуманітарных грузаў.

ДЭМАГРАФІЯ

## КОЛЬКІ БЕЛАРУСАЎ У ЛІТВЕ

Паводле апошніх даных Дэпартамента статыстыкі Літоўскай Рэспублікі, з пачатку 1994 года нацыянальны састаў краіны выглядаў так: літоўцаў -- 81,1 працэнта, рускіх -- 8,5, палякаў -- 7, беларусаў -- 1,5, украінцаў -- 1 працэнт, яўрэяў -- 0,2, іншых нацыянальнасцей -- 1,7 працэнта.

Усё насельніцтва Літвы ў пачатку года складала 3 739 тысяч чалавек. Такім чынам, за гады "перабудовы" ў выніку міграцыі, змены нацыянальнасці, падзення нараджальнасці і іншых прычын колькасць беларусаў у Літве, якія на Віленшчыне -- адна з карэнных нацыянальнасцей, зменшылася на 6 тысяч і складае цяпер крыху больш за 56 тысяч чалавек.

НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА КРЫЗІС

## УЛАСНІК ДУЖЭЕ

У грамадскім сектары Беларусі скарачаецца літаральна ўсё, уключаючы пагалоўе жывёлы. У індывідуальных гаспадарах, наадварот, -- устойлівы рост. Так, на Віцебшчыне ў мінулым годзе павялічылася колькасць коней на прыватных падвор'ях на 38 працэнтаў, свіней -- на 9, коз -- на 6 працэнтаў. Матачнае пагалоўе свіней павялічылася ў 2 разы. Кожны дзесяты жыхар вобласці мае па дзве каровы і больш. Не выпадкова таму амаль кожны чацвёрты літр малака, які прадаецца дзяржаве, паступае з індывідуальных гаспадарак. Удзельная вага мяса ад прыватных "міні-фермаў" складае 6,9 працэнта ў агульным аб'ёме нарыхтовак.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ПАСЛЯ ВІЗІТУ Ў ГЕРМАНІЮ

Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка вельмі задаволены сваім візітам у Германію. На прэс-канферэнцыі міністр заявіў, што гэта першы ў гісторыі беларуска-германскіх адносін такі візіт і даў ён добрыя вынікі. Была дасягнута дамоўленасць аб паскарэнні выдачы Беларусі другой часткі германскага крэдыту ў памеры 300 мільёнаў марак.

Адзін з самых важных дакументаў, падпісаных у час візіту, -- мемарандум аб узаемаразуменні паміж урадамі ФРГ і Рэспублікі Беларусь па садзейнічанню ў супрацоўніцтве ў мэтах змяншэння вынікаў аварыі на атамным рэактары ў Чарнобылі. П.Краўчанка падкрэсліў, што гэта першы такі дакумент, падпісаны нашай дзяржавай з замежнымі краінамі.

Падпісана таксама пагадненне аб культурным супрацоўніцтве.

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ

## ПАДТРЫМКА ТАЛЕНТАЎ

У мэтах дзяржаўнай падтрымкі таленавітай моладзі Савет Міністраў прыняў рашэнне аб распаўсюджанні як выключэнне на вучняў 9--12 класаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі парадку і ўмоў забеспячэння стыпендыямі, вызначаных для навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

УПЕРШЫНЮ

## ЦЭНТР ГЕМАФІЛІІ

Рэспубліканскі цэнтр медыцынскай рэабілітацыі хворых на гемафілію адкрыўся ў сталіцы. Ён стаў першым у Беларусі. Тут хворыя будуць аднаўляць сваё здароўе, змогуць карыстацца шырокім спектрам паслуг. Стварэнне цэнтра стала магчымым дзякуючы Таварыству хворых на гемафілію, Інстытуту грамадскіх сувязяў і Беларускаму дзіцячаму фонду.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ФЕДЭРАЦЫЯ прафсаюзаў Беларусі прапанавала Вярхоўнаму Савету і ўраду дзяржавы ўстанавіць з 1 красавіка 1994 года мінімальную заработную плату не меней, чым 60 тысяч рублёў у месяц. Гэта выклікана пастаянным ростам цэнаў на тавары шырокага ўжытку. Пакуль што мінімальная зарплата ў Беларусі -- 30 тысяч рублёў.

І Савет Міністраў пачуў голас прафсаюзаў: з 1 красавіка 1994 года ўстанаўліваецца мінімальная зарплата ў памеры 60 тысяч рублёў у месяц.

КАЛІ гэтым летам у Беларусі адбудуцца выбары першага прэзідэнта, то яны абыдуцца дзяржаве ў 116 мільярдаў рублёў. Гэта без папраўкі на інфляцыю. Такую лічбу назвалі у Цэнтральнай выбарчай камісіі, дзе ўжо рыхтуюцца да прэзідэнцкай кампаніі.

БОЛЬШ 500 мільярдаў рублёў -- столькі павінна заплаціць Беларусь Расіі за спажыты газ. З 5 сакавіка Расія парамала перакрыць газапровад, але ў Беларусі "наскраблі" 10 мільярдаў рублёў і аддалі расійскаму "Газпрому". Газ пакуль ідзе па трубах, доўг -- застаецца.

БАРЫСАЎСКІ танкарамонтны завод узяўся за выкананне незвычайнага заказа -- ён будзе выпускаць жалезныя калёсы. Трактары цяпер калгасам не па кішэні: занадта дарагія і паліва для іх няма. Першыя ўзоры калёс спадабаліся сялянам.

У КАСЦЁЛЕ св. Роха на Залатой Горцы ў Мінску, які летась быў перададзены парафіянам, заканчваецца ўзвядзенне левага алтара. У цэнтры яго -- постаць Маці Божай, выкананая ў бронзе мінскім скульптарам Валерыем Янушкевічам.

ГОД 1994 вызначаецца моцнымі пажарамі. Толькі за студзень--люты ў Беларусі адбылося 2 063 пажары. Страты ад іх перасягаюць 2,5 мільёна рублёў. У агні загінулі 147 чалавек, з іх 14 -- дзеці.

ПЕРШЫ намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіл Мясніковіч паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю. Тэма яе: "Варункі і фактары станаўлення рынкавай эканомікі ў Беларусі". Вучоны савет Эканамічнага універсітэта адзначыў высокую вартасць працы і яе актуальнасць.

У СУВЯЗІ з тым, што Літва ўвяла з 1 сакавіка 1994 года візавы рэжым для ўезду на яе тэрыторыю для грамадзян Беларусі, урад нашай рэспублікі адказаў тым жа. З 1 красавіка літоўцы павінны мець візы, каб прыехаць на Беларусь.

*СУСТРЭЧА З ВЯЛІКІМ, ЦУДОЎНЫМ ЧАЛАВЕКАМ*

# З ВЯРТАННЕМ ВАС, БАРЫС КІТ!




**Вельмі паважаны рэдактар Мацкевіч! Дарагая Дзіяна Цімафееўна! Усе паважаныя супрацоўнікі "Голасу Радзімы"! Шчыра дзякую вам за выданне кнігі спадарыні Савік аб маім жыцці. Я ўпэўнены, што гэтая з любоўю выдадзеная маленькая кніжачка будзе не маленькай крыніцай ведаў, патрэбных для напісання гісторыі Заходняй Беларусі паміж першай і другой сусветнымі войнамі і гісторыі беларускай эміграцыі на Захадзе. Вітаю вас усіх і жадаю вам далейшых поспехаў у цяперашнім беларускім адраджэнскім руху. Мы, беларусы на Захадзе, чытаем з вялікай цікавасцю і прыемнасцю вашу газету. Добрая газета. Дзякуем вам!**

**Барыс КІТ.**

Германія.

Дзіўныя супадзенні бываюць у жыцці. Выпала адно з іх і на маю долю. Ніколі я і не марыла пазнаёміцца са славутым вучоным Барысам Кітом, пра якога толькі чытала і чула, але літаральна за дзень да майго ад'езду ў Германію на стол галоўнага рэдактара "Голасу Радзімы" леглі сігнальныя экземпляры кнігі Лідзіі Савік "Вяртанне". Так што, як гаворыцца, сам Бог загадаў мне адвезці кнігу вучонаму, які жыве зараз у Франкфурце-на-Майне. Але як ён яе чакаў, я зразумела толькі тады, калі, пазваніўшы з мястэчка Сістэрмюэ, дзе жыла разам з бацькам у доме графіні Размары фон Кільмансеф, пачула ўсхваляваны голас Барыса Кіта: "Вераніка Анатольеўна, як добра, што вы нарэшце пазванілі! Спадарыня Савік па тэлефоне папярэдзіла мяне, што вы везяце кнігі, і я ўжо два дні не выходжу з дому, чакаю..." Літаральна праз дваццаць хвілін прафесар звязаўся з турысцкім бюро, дзе яму заказалі білеты на поезд і нумар у гатэлі "Раяль" горада Эльмсхорна, што побач з Сістэрмюэ, пра існаванне якіх, па яго словах, дагэтуль і не ведаў.

Наступным днём ад тэлефона не адыходзіла ўжо я. Калі прафесар прыедзе ў незнаёмы Эльмсхорн? Як дабярэцца да Сістэрмюэ, знойдзе маёнтак, дзе мы жывём? Да таго ж, на вечар гаспадыня запрасіла да сябе сяброўак (пра свайго госця мы папярэдзілі), і таму, калі таксі з прафесарам пад'ехала к дому, вячэра была ў самым разгары.

Жанчыны сустрэлі госця з цікавасцю, ветліва, і вельмі хутка ён стаў цэнтрам нашай невялікай кампаніі. Але ўжо праз некалькі хвілін Барыс Уладзіміравіч не вытрымаў, павярнуў да мяне поўны нецярпення ўмольны позірк і сказаў толькі адно слова: "Дзе?!" Я прынесла кніжкі, прафесар устаў і працягнуў рукі.

Напэўна, менавіта так бацька бярэ сваё, толькі што народжанае першае дзіця -- беражліва, пяшчотна, з трапятаннем. У той момант, гледзячы на Вас, паважаны Барыс Уладзіміравіч, я разумела, што гэтая невялікая кніга для Вас важнейшая за ўсе напісаныя Вамі за жыццё навуковыя працы, пералік якіх займае не адну старонку, бо гэта -- вяртанне на Радзіму, якая доўгія гады лічыла, што можа абысціся без Вас, і толькі зараз пачала збіраць лепшых сваіх сыноў, сталых і мудрых, пра якіх некалі так лёгка і бяздумна забылася, згубіла і прымусіла шукаць лепшай долі ў іншых, далёкіх краях. Вы знайшлі сваю долю, Барыс Уладзіміравіч, але што за гэты час згубілі мы?

А потым мы сядзелі ў прыгожай гасцінай нашай гаспадыні, і я ўпершыню ў жыцці брала інтэрв'ю ў абсалютна шчаслівага чалавека, і на працягу ўсёй размовы Барыс Уладзіміравіч не выпускаў з рук дарагую для яго кнігу.

**-- Барыс Уладзіміравіч, вы толькі што атрымалі кнігу Лідзіі Савік пра сябе і сваё жыццё. Гэта першае выданне, якое раскажа беларусам пра аднаго з самых вядомых нашых суайчыннікаў, што жывуць за мяжой. Што вы адчуваеце зараз?**

-- Я шчаслівы, бо для мяне гэта найбольшае дасягненне ва ўсім маім жыцці. Мне вельмі пашчасціла, я шмат гадоў паспяхова працаваў у Амерыцы і цяпер, дзякуючы гэтай кнізе, адчуў, што пра мяне не забыліся і на Радзіме.

**-- Якую падзею на Беларусі вы лічыце галоўнай за апошнія гады?**

-- Безумоўна, тое, што мая Радзіма ў рэшце рэшт набыла сваю незалежнасць. Усе народы імкнуцца да самастойнасці, таксама ж і Беларусь, і Украіна, і іншыя рэспублікі, што былі пад Савецкім Саюзам, і вельмі добра, што яны атрымалі магчымасць ісці сваім шляхам. Гэта як з людзьмі: свабода -- найвышэйшая і найкаштоўнейшая рэч у жыцці кожнага чалавека. У гісторыі і філасофіі ёсць палажэнне, згодна з якім чалавек толькі тады больш годны, калі ён вольны, калі ён робіць тое, што хоча, бо толькі вольны чалавек мае магчымасць рэалізаваць сябе. Так, самае вялікае для мяне шчасце -- незалежнасць Беларусі, і вы, людзі гэтай краіны, павінны зрабіць усё, каб захаваць яе. Рэспубліка мае ўсё патрэбнае, каб добра жыць і развівацца -- цудоўны народ, прыгожую зямлю, а, галоўнае, мы маем сваю мову, якую нам Бог даў. Я магу першакласна і па-расейску гаварыць, але я маю сваю мову і са сваімі людзьмі буду размаўляць на ёй, бо мая мова не горшая. На ёй некалі і дзяржаўныя статуты стварaлі, і Скарына з Каліноўскім пісалі. Дарэчы, лічу, што дзяржаўны дзеяч, які не ведае роднай мовы, -- ганьба для нацыі.

**-- Але зараз на Беларусі вельмі цяжкае эканамічнае становішча...**

-- Крызіс сёння перажывае не толькі Беларусь, зараз цяжка паўсюль. Нават заможная Амерыка мае адчувальныя складанасці і праблемы. Гэта гістарычная заканамернасць. Паверце, стопрацэнтнага шчасця няма ніколі і нідзе. Пяцьдзесят гадоў увесь свет працаваў на вайну. Зараз пачалося агульнае раззбраенне, людзей на ваенных прадпрыемствах звальняюць. Дзе ім знайсці новую працу? Але, канешне, вашы праблемы куды больш складаныя, чым тыя, якія зараз перажывае Захад, бо вы пераходзіце з адной сістэмы ў іншую, трэба перарабляць нанава літаральна ўсё. І крызіс ваш ад гэтага, а не ад таго, што сам па сабе дэмакратычны шлях дрэнны. Проста вы зараз знаходзіцеся ў становішчы чалавека, якому толькі што зрабілі аперацыю, і ён яшчэ не адышоў ад наркозу. Можа і дзесяць год прайсці, пакуль усё нармалізуецца, але я веру, што гэты час прыйдзе.

**-- Чым вы займаецеся зараз?**

-- Шукаю грошы для універсітэта ў Мінску, -- Барыс Уладзіміравіч засмяяўся, а потым ужо сур'ёзна дадаў: -- У мяне ёсць сябра, вельмі добры адвакат, ён па ўсім свеце рассылае лісты з просьбай дапамагчы Беларусі, да многіх звяртаюся я сам. Дапамагаць не кідаюцца, але ж сям-там адклікаюцца. Спадзяюся, што нешта добрае для Беларусі зрабіць яшчэ змагу.

**-- Адкуль у вас столькі энергіі?**

-- Ад прыроды, напэўна. Да таго ж, усё жыццё была цікавая праца. Я быў шчаслівы чалавек, бо працаваў у найбольш цікавых месцах, спатыкаў і ведаў найвялікшых людзей свету, напісаў першы ў гісторыі падручнік па ракетнай тэхніцы і паліву, рабіў карабель для палёту на Месяц -- гэта ж было выдатна!

**-- А калі рускія першы спадарожнік запусцілі, рэўнасці не адчулі?**

-- Гэта не рэўнасць была -- падшпорылі! Рускія падшпорылі Амерыку, ды так, што амерыканцы на Месяц першымі паляцелі! А рэўнасці не было. Я ездзіў на міжнародныя кангрэсы, сустракаў там, між іншым, і Клімука, мы з ім добра па-беларуску гаварылі. Я так цешуся, калі сёння даведваюся, што амерыканскія і расейскія астранаўты разам у космас паляцелі, што рыхтуецца сумесная экспедыцыя на Марс! -- Барыс Уладзіміравіч памаўчаў, а потым сказаў: -- Я ўжо стары чалавек, мая генерацыя адыходзіць, але зараз Беларусі патрэбны мы ўсе. І калі мы, беларусы, за мяжою нечага дасягнулі, дык гэта ўсё роўна, як Беларусь дасягнула, бо ўсё жыццё, дзе б ні жылі і што б ні рабілі, наша Бацькаўшчына заўсёды была ў сэрцы. Я вельмі спадзяюся, што плён працы беларусаў за мяжой сёння дапаможа нашай краіне, падтрымае яе аўтарытэт у свеце.

Дзіўны гэта быў вечар. Пытанні Барыса Уладзіміравіча аб сённяшняй Беларусі змяніліся цікавымі ўспамінамі пра мінулыя часы. Здзіўляла выдатная памяць: аб якім бы перыядзе гісторыі -- і не толькі беларускай, -- пра якую б канкрэтную падзею ні заходзіла гаворка, прафесар з найдакладнейшымі падрабязнасцямі захапляюча расказваў пра іх, што здавалася, быццам ён сам і сто, і дзвесьце год таму прысутнічаў там, усё чуў і бачыў на ўласныя вочы. Калі зайшла размова пра апошнія гады перад рэвалюцыяй 1917 года, я ўзяла са стала толькі што выдадзеную ў Аўстрыі кнігу Элізабет Хераш "Аляксандра", прысвечаную апошняй рускай імператрыцы, і звярнула ўвагу на словы, што сказаў Керанскі: "Без Распуціна не было б Леніна".

"Калі ў вышэйшых эшалонах улады псуюцца норавы, іх жыццё перастае быць прыкладам, а паводзіны дзяржаўных дзеячаў выклікаюць абурэнне ў народа, -- сказаў Барыс Кіт, -- людзі гатовы пайсці за першым, хто таннымі лозунгамі пакліча іх за сабою і наабяцае тое, чаго ніколі выконваць не будзе". Што ж, слушная заўвага мудрага чалавека.

Жанчыны разышліся, з намі засталася толькі гаспадыня і яе лепшая сяброўка Шрымгард фон Зюдаў (яе дзядзька фельдмаршал фон Віцлебен падчас вайны прымаў удзел у вядомым замаху на Гітлера). Ішла ўжо дзевятая гадзіна, калі Барыс Уладзіміравіч печакана зрабіў усёй нашай кампаніі трохі авантурную прапанову -- адзначыць радасную падзею ў рэстаране, да якога было даволі далёка... Але ж, напэўна, святочны настрой перадаўся ўсім, і ніколі ў жыцці я не бачыла такіх хуткіх збораў: праз некаторы час мы ўжо сядзелі ў невялікай утульнай зале рэстарана.

Дзіўны, непаўторны і велічны Барыс Кіт, "апошні з магіканаў беларускай эміграцыі", як вы назвалі сябе ў той вечар у Эльмсхорне. Вы запыталіся ў мяне, ці напішу я пра нашу сустрэчу, калі вярнуся ў Мінск. "Абавязкова", -- адказала я і зараз выконваю сваё абяцанне.

У той вечар за нашым сталом сядзела пяць чалавек і гучала пяць моў -- англійская, нямецкая, беларуская, руская і польская, на якой вы з прыемнасцю размаўлялі з фраў фон Зюдаў. Агеньчык зялёнай свечкі, што гарэла тады на стале і дагэтуль ззяе ў маёй душы і саграваe яе, адбіваўся ў Вашых дзіўных вачах, калі вы расказвалі, расказвалі нам пра сваё жыццё, пра старонкі гісторыі, пра сустрэчы з вядомымі і цікавымі людзьмі... А яшчэ -- усё тое ж бясконцае шчасце ад атрыманай кнігі, першай, якая расказала беларусам пра чалавека, што з'яўляецца гонарам нашай нацыі. Шкада, праўда, што адбылося гэта толькі зараз, у Вашы 84 гады, калі буйнейшыя краіны свету прызналі Вас, як выдатнага вучонага сучаснасці, і буйнейшыя акадэміі і навуковыя таварыствы свету надалі Вам тытул ганаровага члена -- акрамя роднай, беларускай.

Графіня фон Кільмансеф, якая ўважліва слухала нашу размову, спытала ў мяне: "Скажыце, як даўно вы ведаеце прафесара Кіта?"

-- Мы пазнаёміліся толькі сёння, у вашым доме, -- адказала я.

-- Тады як жа магчыма ўсё гэта? -- здзівілася графіня, маючы на ўвазе наша нязмушанае застолле.

На момант я разгубілася, а потым, паказаўшы на прафесара Кіта, сказала: "Ён беларус, і я беларуска, адтуль жа і мой бацька..."

-- Разумею, -- задумліва прамовіла графіня і неяк па-новаму, з большай павагай паглядзела на нас.

Я ведаю, Барыс Уладзіміравіч, што Вы будзеце чытаць гэтыя радкі, і хачу яшчэ раз падзякаваць за гэты вечар, сказаць Вам, што Вы былі самым маладым у нашай невялікай кампаніі, што над Вамі не мае ўлады ўзрост, і ўжо ніколі не будзе мець улады час, бо ўжо зараз Вы перамаглі яго, як перамаглі ўсе нягоды Вашага дзіўнага і цяжкага жыцця, акрамя адной -- суму па Радзіме, па Беларусі, ад якой некалі так бязлітасна Вас адарваў лёс.

-- Усё, што б я ні рабіў, і дзе б ні рабіў, я рабіў для маёй Радзімы і яе гонару, -- сказалі Вы. І гэта так, бо праца Ваша была на карысць усіх народаў, а значыць, і нашага.

Зараз на маім стале ляжыць кніга Лідзіі Савік "Вяртанне. Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта". Чытаюць яе і многія іншыя беларусы. А значыць, з вяртаннем Вас, вялікі і непаўторны Барыс Кіт.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**Барыс КІТ і аўтар артыкула ў час сустрэчы ў Германіі.**

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ



# Антон ЛУЦКЕВІЧ: ФІЛАСОФІЯ І ЭСТЭТЫКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

Жорсткія абмежаванні з боку бюракратычнага рэжыму былой БССР на даследаванне "нашаніўскай" традыцыі, "забарона" шматлікіх імёнаў, твораў і нават паняццяў, занесеных у "чорныя спісы" цэнзуры, прывялі да таго, што з кантэксту грамадскай свядомасці выпалі цэлыя пласты нацыянальнай культуры. Не праводзілася тэксталагічнае даследаванне значнай часткі літаратурна-публіцыстычных, навукова-асветніцкіх матэрыялаў "Нашай нівы", асабліва палітычнай палемікі, сацыяльна-філасофскай публіцыстыкі заснавальнікаў гэтага штотыднёвіка. Нашаніўская спадчына А.Луцкевіча закраналася зрэдку хіба што ананімна, бо афіцыйна дазваляўся толькі выкрывальніцкі пафас у дачыненні да твораў "буржуазных нацыяналістаў".

А.Луцкевіч як аўтар кніг і літаратуразнавец быў вядомы па-свойму шляхецкаму гербаваму імені "Навіна". Шматлікія публіцыстычныя творы ў "Нашай ніве", іншых выданнях ён падпісваў псеўданімамі Генрых Букавецкі, Іван Мялешка, Кумальга, а яшчэ часцей -- крыптонімамі (А.Л., А.Н., Г.Б., А-Н-А., Б., Н., Л. і інш.). Але ўжо папярэдні тэксталагічны аналіз "Нашай нівы" паказвае, што ён -- аўтар не толькі асветніцкіх, сацыяльна-палітычных, палемічных, інфарматыўных артыкулаў, нарысаў і нататак, падпісаных гэтымі крыптонімамі, але і шматлікіх рэдакцыйных матэрыялаў. Яго аўтарства ідэнтыфіцыруецца адзінствам тэматыкі і светапогляду, стылем, урэшце спасылкамі аўтара публікацыяў, пазначаных крыптонімамі А.Луцкевіча, на рэдакцыйныя артыкулы газеты як свае.

Толькі за 1906--1908 гады А.Луцкевіч апублікаваў у "Нашай ніве" каля дваццаці артыкулаў, у тым ліку: "Аб свабодах", "Работа Думы (Ад нашага думскага карэспандэнта)", "Мужыцкія даходы і расходы ў Расеі", "Аб жыдах", "Як жыве амерыканскі рабочы", "Трэцяя Дума і "инородцы", "Колькі слоў аб грабяжах і грабежцах", "Аб арэндзе зямлі ў Беларусі". У першым артыкуле аўтар прапанаваў папулярную лекцыю пра асноўныя сацыяльна-эканамічныя і прававыя асновы дэмакратычнага дзяржаўнага і грамадскага ладу: усеагульная роўнасць перад законамі, якія зацвярджаюцца законным парадкам парламентамі ці іншымі выбранымі на аснове ўсеагульнага і роўнага галасавання заканадаўчымі ўстановамі, грамадзянскія і палітычныя свабоды, роўная для ўсіх адказнасць толькі перад законам; адмена саслоўных і бюракратычных прывілеяў; свабода слова і друку, свабода сходаў і саюзаў, права на правядзенне стачак. Для нагляднасці А.Луцкевіч параўнаў англійскі стандарт дэмакратызацыі, створаны на працягу стагоддзяў, з расійскім бяспраўем.

У цыкле артыкулаў, прысвечаным сялянска-аграрнай бюджэтнай праблематыцы, А.Луцкевіч як спецыяліст-правазнаўца крытычна прааналізаваў падатковую сістэму царскай Расіі, прапанаваў замяніць антыдэмакратычныя пазямельны, акцызны ўскосны падатак адзіным падаходным падаткам, падтрымаў ідэю склікання Нацыянальнага Сойма краю, які без выкупу перадаў бы зямлю сялянам і захаваў бы лясны фонд, без якога сельская гаспадарка ў Беларусі разбурыцца. Глыбокія веды ў галіне практычнай эканомікі выявіў аўтар пры аналізе разнастайных формаў зямельнай арэнды. На аснове канкрэтнай статыстыкі ён паказаў высокі ўзровень жыцця работнікаў у ЗША, дзе іх даходы набліжаны да зарплаты інжынераў і чыноўнікаў. Прычына грабежніцтва і бандытызму яму бачылася не ў рэвалюцыйнай і сацыялістычнай агітацыі, як гэта тлумачылі ўрадавыя колы і рэакцыйныя партыі, а ў "цемнаце, голадзе і п'янстве". Лідэр БСГ марыў пра той час, калі ў "нашым бедным і цёмным краю навука для ўсіх стане даступнаю". А цяпер (у 1907 годзе), пісаў ён, у Расіі адзін універсітэт прыходзіцца на 15,5 мільёна жыхароў, у той час як у Германіі -- на 3 мільёны. У Расіі на тысячу чалавек у школу ходзяць 32 вучні, а ў ЗША -- 230 вучняў. У аналітычнай інфармацыі пра дзейнасць Дзяржаўнай Думы А.Луцкевіч крытыкаваў палітыку сталыпінскага ўрада, падтрымліваў дэпутатаў дэмакратычных партый, якія патрабавалі роўных правоў для ўсіх нацый Расіі.

Пачынаючы з 1909 года ў публіцыстыцы А.Луцкевіча на першае месца выходзіць нацыянальная праблематыка. Пра тое сведчаць загалоўкі яго нашаніўскіх публікацыяў: "Аб беларускім нацыянальным адраджэнні", "Культурнае значэнне малых нацый", "Справа аб беларускай школе ў Думе", "Кароткая гісторыя Беларусі" (рэцэнзія на кніжку В.Ластоўскага), "Родная мова і яе культурнае значэнне", "Наш шлях", "Pro doma sua" ("За свой дом"), "Расія і Кітай", "Школа і граматнасць у Беларусі", "З нашага жыцця", "Беларуская мова ў апошнім пяцілецці", "Нячыстая палітыка", "Першы крок", "Край і народ", "Што трэба рабіць", "Змаганне з хваробай" (выкрыццё шавіністычнага нацыяналізму), "Думкі аб школьнай справе", "Пуцяводныя ідэі", "Адвечная пропасць", "Слова і дзела", "Куды ісці", "Жыццё дужэй за смерць", "На дарозе да новага жыцця" ("Маладая Беларусь", сшытак 1, 1912 г.). Пазней у штотыднёвіку "Гоман" А.Луцкевіч апублікаваў на гэтую тэму артыкулы "Места і вёска", "10-летні юбілей беларускай прэсы", "Не запужаюць!", "Памяці Цёткі", "Разбітая традыцыя", "Новая Беларусь", "Волі і прасвету", "Перад развязкай польскай справы", "Да дзяржаўнай еднасці гасударства", "Кожнаму сваё", цыкл літаратуразнаўчых нарысаў "Нашыя песняры" і "На новыя напевы" і інш.

У гэтай баявітай публіцыстыцы, нярэдка з'едліва-крытычнай, выкрывальніцкай, часам стрыманай і дыпламатычнай, але заўсёды дасціпнай, звернутай адначасова да інтэлігенцыі і простага народа, абмяркоўваліся бадай што ўсе аспекты ідэалогіі, палітыкі і практыкі беларускага нацыянальнага руху да рэвалюцыі 1917 года. А.Луцкевіч здолеў сінтэзаваць усе грані беларускай нацыянальнай ідэі, ставіць яе чарговыя пытанні і даваць на іх адказы, урэшце, умеў вызначаць перспектывы яе рэалізацыі. У 1909 годзе ён выразна абазначыў паварот рэвалюцыйных метадаў барацьбы да творча-культурнай працы, нацэленай на асвету, выхаванне нацыянальнай самасвядомасці. Публіцыст выходзіў на глабальныя тэарэтычныя праблемы, зафіксаваўшы творчую неэфектыўнасць ранейшай іерархіі культур, падзел яе на культуры "вялікія" і "малыя", выхад апошніх на сусветную арэну. "Вядома, -- пісаў ён, -- каб служыць усяму чалавецтву, малыя народы павінны стаць культурнымі, а гэта не лёгкая і не малая работа. Тут патрэбна шмат здольнасцей і працы дзеячам малых нацый, каб узгадаваць культурнае пакаленне, каторае магло б поўнай жменяй класці культурныя дабычы ў агульналюдскую скарбонку" (19.11.1909 г.). У адпаведнасці з гэтымі пасылкамі фарміравалася палітычная тактыка беларускага нацыянальнага руху. У рэдакцыйным артыкуле, дзе "прачытваецца" светапогляд паслядоўнага дэмакрата Луцкевіча, чытаем: "Мы, беларусы, думкі каторых выказваюцца ў "Нашай ніве", павінны ясна трымацца простай і высокай мэты адраджэння нашага народу і краю, цвёрда і з гонарам адстойваць свае людскія і грамадзянскія правы, шануючы правы ўсіх нацый нашага краю і ідучы з прагрэсіўнымі сіламі братніх нам народаў Расіі. Мы павінны глядзець праз галовы розных цяперашніх "герояў" на 10-30 гадоў уперад у сваю вялікую будучыню"... (5.14.1911).

Часта і ўзнёсла казаў ён пра мову нашу беларускую: яна гарантуе народу гістарычны шанец выжыць, стымулюе ўсе іншыя бакі нацыянальнага Адраджэння. Яго артыкул "Родная мова і яе культурнае значэнне" перайшоў са старонак газеты (7.10.1910) у папулярны на вёсцы "Беларускі каляндар "Нашай нівы" (1911). Сутнасць шматлікіх выступленняў пісьменніка на гэтую тэму заключаецца ў тым, што толькі ў роднай мове творыцца самабытная культура, цікавая для ўсіх іншых народаў. Родная мова акумулюе спрадвечны сацыяльны і духоўны вопыт нацыі, яе душу і дух, яна вызначае кірунак, якога павінен трымацца народ, каб заслужыць павагу агульначалавечай супольнасці. А паважаць яго ў агульнай сям'і народаў будуць толькі тады, калі ён прыдзе ў яе не з пустымі рукамі, а з "новым багатым дарам для ўсясветнай культуры".

А. Луцкевіч быў сярод пачынальнікаў той плыні папулярнай сацыялінгвістыкі, якія пачалі даследаваць пашыраную на Беларусі эпідэмію "культурнага рэнегацтва", узгадаванага тут імперскай палітыкай з Усходу і Захаду: атрымаўшы сякія-такія веды, напаўадукаваныя, а часам нават высокаадукаваныя беларусы з гарадоў, мястэчак і вёсак выракаліся матчынай мовы і традыцыйнай культуры, сталіся псеўдапалякамі і псеўдарускімі. Гэта стрымлівала не толькі іх нацыянальнае самавызначэнне, але таксама духоўнае развіццё. Бо толькі матчыная родная мова ёсць "найлягчэйшая форма выяўлення думак чалавека", яго маральнага і духоўнага ўзгадавання. Гэтую праўду пацвердзіць шматвяковы педагагічны вопыт усіх рэгіёнаў свету. Для таго каб пазбавіцца імперскага сіндрому і рэнегацтва, на думку Луцкевіча, неабходна, па-першае, вызваліць сялян і работнікаў ад сацыяльнай прыніжанасці, падняць прэстыж іх працы, даць ім годнасць гаспадароў свайго краю. Бо праз доўгія гады паняверкі, "чуючы ад інтэлігентаў, з якімі беларусу даводзілася спатыкацца, адну толькі пагарду да яго мовы, насмешкі над ёю, наш селянін не толькі пачаў саромецца ўсяго, што аддзяляла яго ад пана-паляка і чыноўніка-расійца, не толькі згубіў сваю нацыянальную свядомасць, але і свядомасць сваёй асабістай вартасці, як чалавека, пачуццё грамадскай і агульначалавечай гордасці". Па-другое, неабходна стварыць нацыянальную школу, каб дзеткі беларускія маглі ў роднай мове развіваць закладзеныя ў іх генетычнай спадчыне творчыя здольнасці. Урэшце, па-трэцяе, патрэбна прабудзіць у сялян і работнікаў шчырую сумленнасць праз хрысціянскую рэлігію, сваю беларускую царкву. Пакуль каталіцкая царква ў нас застанецца "польскай", а праваслаўная -- "расейскай", народ наш "будзе дзяліцца на дзве часткі: католікі будуць цягнуцца за палякамі, праваслаўныя -- за расейцамі". ("Наша ніва", 1911, 10 лістапада; 1913, 15 сакавіка).

У артыкуле-перадавіцы "Што трэба рабіць" (1913, 10 студзеня) тэарэтык і палітык "Нашай нівы" прапанаваў цэлую праграму практычнага адраджэння Беларусі. "Работа вашая, -- пісаў ён, -- павінна ісці галоўным чынам да пашырэння прасветы і развіцця нацыянальнай свядомасці ў беларусаў, а поруч з гэтым развіваць эканамічную сілу народу". Дзеля першай мэты ён рэкамендаваў шырыць думку аб нацыяналізацыі ўсіх форм народнай асветы і адначасова адкрываць прыватныя і грамадскія школы, бібліятэкі, курсы, лекторыі, гурткі і таварыствы, садзейнічаць развіццю нацыянальнай літаратуры, выяўленчага, тэатральнага, музычнага мастацтваў, распаўсюджваць беларускі друк, папулярызаваць праўдзівую гісторыю краю. Дзеля развіцця эканомікі неабходна "развіваць у народзе прывычку здавальняць свае патрэбы сваімі сіламі -- супольнай, хаўруснай працай; падтрымліваць сялянскія гаспадаркі, садзейнічаць пашырэнню зямельнай уласнасці; развіваць разнастайныя формы сельскагаспадарчай, прамысловай і банкаўскай кааперацыі, не дапусціць кантролю чужынцаў над зямельным фондам".

Гэтая праграма, відавочна, і сёння не страціла сваёй актуальнасці. Як, дарэчы, і шмат што іншае ў сацыяльна-эканамічнай, палітычнай і культурнай спадчыне "Нашай нівы". Напрыклад, "Думкі аб школьнай справе" А. Луцкевіча, дзе ён раіў не навязваць дзіцяці чужую, няхай сабе і "вышэйшую" культуру, а "развіваць яго душу і сэрца, яго думкі -- свае, а не чужыя". Альбо ягоная ацэнка былога расійскага парламента: "Сумленна кажучы, у Думе працуе невялікая жменя людзей. Працуюць дэпутаты з так званай "апазіцыі", каторыя не хочуць скакаць пад казённую дудку да шчыра рупяцца, каб завесці новыя, вольныя парадкі" (12.12.1913 г.). У выбары метадаў грамадска-палітычнага і культурнага адбудавання Бацькаўшчыны ён прытрымліваўся эвалюцыйнай стратэгіі, прававых і маральных імператываў, і тут сказалася вышэйшая прыродазнаўчая і юрыдычная адукацыя гэтага лідэра беларускага вызваленчага руху. Ён быў перакананы, што праца штодзённая, руплівая, тое, што часам пагардліва называюць "малымі справамі", вядзе да вялікага гмаху эканамічнага і духоўнага багацця.

У ідэйнай барацьбе з праціўнікамі беларускага нацыянальнага Адраджэння, тутэйшымі шавіністамі расійскай альбо польскай арыентацыі, рэакцыйнымі партыямі ў Дзяржаўнай Думе ярка выявіўся палемічны талент А. Луцкевіча. У лістападзе 1910 года ён выкрываў імперскую палітыку Думы, якая галасамі "правых", акцябрыстаў і падабраных імі "мужыцкіх" дэпутатаў забараніла беларускія і ўкраінскія школы ў роднай мове. Сярод шматлікіх матэрыялаў "Нашай нівы", якія выкрывалі фарысейства мясцовых абрусіцеляў (хамелеёнская хэўра "Крестьянин", газета Л. Саланевіча "Северо-Западная Жизнь" і інш.), выдзяляюцца дасціпнасцю і аргументаванасцю палемікі матэрыялы, падпісаныя крыптонімамі "Г.Б.". Адказваючы на шматлікія паклёпніцкія выдумкі, быццам "Наша ніва" выдаецца на расійскія грошы (плёткі з боку "заходніх вучоных") ды польскія капіталы (свядомая хлусня "ўсходніх вучоных"), А. Луцкевіч пісаў: "Мы з гордасцю можам сказаць, што ў "Нашай ніве" ніхто не бярэ ні капейкі за сваю працу. Тысячная сям'я нашых карэспандэнтаў і песняроў па вёсках і гарадах бацькаўшчыны-Беларусі -- усе людзі бедныя -- дакладае яшчэ свае грошы на паштовыя маркі".

Амаль у кожным нумары "Нашай нівы" друкаваліся палемічныя нататкі, якія выкрывалі антыбеларускія выпады мясцовых рэакцыйных газет "Минское слово", "Виленский вестник", "Россия" і інш., іх паклёпніцкія выдумкі наконт інспіраванага сепаратызму "Нашай нівы", іх палітычныя даносы на беларускі друк з мэтай справакаваць урадавыя рэпрэсіі. Аналагічная палеміка вялася з мясцовымі польскімі нацыяналістамі, што групаваліся вакол газеты "Кур'ер Літэўскі". Большасць гэтых выкрывальніцкіх матэрыялаў падпісаны крыптонімамі А. Луцкевіча. Дарэчы, гэты шляхетны беларускі інтэлігент не раз падаваў голас у абарону іншых народаў нашага краю, найперш тых, каго даўно гналі і крыўдзілі, -- яўрэяў.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 10.**

## НАБЫТКІ 20-Х ГАДОЎ

# ЯК СТАВІЛІСЯ ДА БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Адна з важных гістарычных з'яў, якая бярэ пачатак у мінулым і актуальная сёння, -- палітыка беларусізацыі. Праграма беларусізацыі, што асабліва актыўна праводзілася ў рэспубліцы ў дваццатыя гады, уключала ў сябе арганізацыю школ, вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў на беларускай мове, развіццё і далейшае пашырэнне беларускай літаратуры, навукова-даследчую працу па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі, вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафсаюзную і грамадскую работу, перавод партыйнага, дзяржаўнага, прафсаюзнага, кааператыўнага апарату і часцей Чырвонай Арміі, што дыслакаваліся на тэрыторыі рэспублікі, на беларускую мову.

Беларусізацыя стала тым напрамкам усяго грамадскага жыцця другой паловы дваццатых гадоў, на якім якасна змянілася і палітычная, і маральна-псіхалагічная атмасфера ў рэспубліцы. Яна была добра арганізавана і разам з тым праводзілася як маштабная доўгатэрміновая кампанія. У яе ажыццяўленні ўдзельнічалі дзесяткі тысяч людзей: партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных актывістаў, настаўнікаў, студэнтаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Правядзенне беларусізацыі як афіцыяльнай палітыкі ўрада рэспубліка пачала ў 1924 годзе. Асновай для гэтага паслужыў шэраг прынятых у ліпені таго ж года дырэктыўных дакументаў на другой сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР, якая адбылася 15 ліпеня 1924 года і разгледзела пытанне "Аб практычных мерах па правядзенню нацыянальнай палітыкі". З гэтага часу беларусізацыя набыла сілу закона. Сесія прыняла рашэнне аб беларусізацыі ў адпаведныя тэрміны апарату савецкіх, прафесіянальных грамадскіх устаноў і арганізацый. Усім наркаматам прапанавалася перавесці справаводства на беларускую мову ў тэрміны ад аднаго да трох гадоў, прычым самы кароткі -- адзін год -- быў адпушчаны для апаратаў ЦВК і СНК БССР, а таксама наркаматаў асветы і земляробства, паколькі апошнія ўжо мелі даволі багаты вопыт работы на мове карэннага насельніцтва рэспублікі. Наркаматы ўнутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння, пошты і тэлеграфа абавязваліся перайсці на беларускую мову на працягу двух гадоў, усе астатнія ўстановы і арганізацыі -- за тры гады. З гэтага часу кожны рэспубліканскі наркамат і ведамства, прадпрыемства і ўстанова ведалі да дробязей, што ім трэба рабіць па ажыццяўленню палітыкі беларусізацыі. Усім ведамствам і арганізацыям рэспублікі ставілася ў абавязак арганізаваць для служачых курсы па вывучэнню беларускай мовы, падрыхтаваць штаты.

Усёй работай па беларусізацыі кіравала створаная ў адпаведнасці з прынятай у 1924 годзе Прэзідыумам ЦВК БССР пастановай Камісія па ажыццяўленню нацыянальнай палітыкі ЦВК БССР, на чале якой стаяў вядомы дзяржаўны дзеяч А.Хацкевіч. Аналагічныя камісіі дзейнічалі пры акруговых выканкомах, у шэрагу буйных гарадоў, раёнаў.

Найбольш складаным пытаннем беларусізацыі была карэнізацыя. Менавіта тут лягчэй за ўсё маглі ўзнікнуць узаемныя крыўды, непаразуменні на глебе супрацьпастаўлення інтарэсаў адной нацыянальнасці другой. Але ж вырашаць яго трэба было абавязкова. Непрапарцыянальна малая адносна агульнай удзельнай вагі ў складзе насельніцтва доля беларусаў у органах улады і кіравання -- у сярэднім менш чвэрці саставу -- лічылася становішчам ненармальным. А з ростам адукаванасці і культурнага ўзроўню насельніцтва, з ростам слоя беларускай інтэлігенцыі ўсведамлялася ўсё вастрэй. Ставілася задача вылучыць прадстаўнікоў карэннага насельніцтва на тую ці іншую пасаду не па нацыянальнай прыкмеце (беларус -- не беларус), а па дзелавых якасцях, веданню ўмоў і асаблівасцей Беларусі, дасканаламу валоданню беларускай і рускай мовамі. Адсюль і тэрмін, свая ўласная назва гэтага напрамку беларусізацыі -- карэнізацыя.

Як развіваўся гэты працэс, ілюструюць лічбы статыстыкі. У БССР у 1929 годзе доля беларусаў у адміністрацыйных установах складала 51,3 працэнта, рускіх -- 18, яўрэяў -- 24,8, палякаў -- 0,1, іншых -- 5,8 працэнта. У гаспадарчых установах доля беларусаў раўнялася 30,8 працэнта, рускіх -- 13,1, яўрэяў -- 49,3, палякаў -- 1,1, іншых -- 5,7 працэнта. У судовых установах беларусы займалі 26,3 працэнта месцаў, руския -- 21,1, яўрэі -- 42,1, іншыя -- 11,5 працэнта. У зямельных установах беларусаў было 59,5 працэнта, рускіх -- 24,1, яўрэяў -- 10,1, іншых -- 6,3 працэнта.

Больш грунтоўна хацелася б спыніцца на тым, як праводзілася беларусізацыя ў часцях Чырвонай Арміі. Можа, вопыт 20-х гадоў дапаможа сённяшняму беларускаму войску, куды, бадай, найцяжэй пранікнуць беларускаму слову і беларускаму духу. Яшчэ YII Усебеларускі з'езд Саветаў (4 мая 1925 года), прызнаўшы поўную мэтазгоднасць нацыянальнага будаўніцтва ў Чырвонай Арміі, патрабаваў "умацніць і паглыбіць беларусізацыю чырвонаармейскіх часцей". 18 мая 1929 года Прэзідыум ЦВК БССР у пастанове па дакладу камандуючага Беларускай ваеннай акругі запісаў: "Даручыць Нацыянальнай камісіі ЦВК сачыць за выкананнем дырэктыў з'езда Саветаў адносна беларусізацыі ваенных часцей і аказваць усялякую дапамогу ў гэтай справе Чырвонай Арміі".

Становішча з беларусізацыяй у вайсковых часцях рэспублікі абмяркоўвалася на пасяджэннях Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР. Так, 31 ліпеня 1925 года Нацкамісія ЦВК БССР разгледзела пытанне аб практычных мерапрыемствах па ажыццяўленню нацпалітыкі ў 2-й Беларускай тэрытарыяльнай дывізіі, 31 красавіка 1926 года --даклад аб ажыццяўленні нацпалітыкі ў беларускіх часцях, 31 жніўня 1926 года -- даклад аб беларусізацыі 2-й Беларускай дывізіі. 31 жніўня 1926 года быў зацверджаны асноўны план беларусізацыі 2-й Беларускай дывізіі ў 1926--1928 гады. У рэзалюцыі па дакладу аб беларусізацыі ў 2-й Беларускай дывізіі Нацкамісія ЦВК БССР адзначыла некаторыя дасягненні ў справе беларусізацыі: павелічэнне беларускай часткі каманднa-палітычнага саставу (камсаставу ў 1925 годзе было 40 працэнтаў, у 1926 годзе -- 42 працэнты, палітсаставу ў 1925 годзе -- 61 працэнт, у 1926 годзе -- 79 працэнтаў, а таксама радавога чырвонаармейскага саставу ў 1925 годзе -- 60 працэнтаў, у 1926 годзе -- 73 працэнты); павелічэнне колькасці тых, хто ведаў беларускую мову, сярод кампалітсаставу дывізіі і, у прыватнасці, сярод адказных работнікаў; перавод значнай часткі палітасветработы на беларускую мову (палітзаняткі беларусізаваны на 52 працэнты, а ліквідацыя непісьменнасці толькі на беларускай мове, таксама перавод амаль цалкам перапіскі палітапарату і часткова страявога апарату); некаторыя дасягненні ў справе выдання на беларускай мове вайсковых статутаў, апрацоўка вайскова-палітычнай тэрміналогіі, выданне падручніка для ліквідацыі непісьменнасці і некаторай часткі масавай літаратуры для палітасветнай работы; у параўнанні з мінулымі гадамі беларусізацыя дывізіі ў 1926 годзе з'яўлялася арганічнай часткай усёй палітычнай вучобы і работы дывізіі.

Нацкамісія ЦВК БССР прызнала здавальняючым асноўны план беларусізацыі дывізіі, выпрацаваны яе камандаваннем, поўнасцю згадзілася з вызначанымі ў гэтым плане тэрмінамі беларусізацыі па асобных галінах работы, а таксама з канчатковым тэрмінам (з восені 1928 года ўся страявая і палітасветная работа з прызывам чырвонаармейцаў 1906 года нараджэння павінна была быць цалкам пераведзена на беларускую мову).

Нацкамісія ЦВК БССР падкрэсліла неабходнасць тэрміновага выдання на беларускай мове ўсіх вайскова-палітычных падручнікаў, намечаных планам, у прыватнасці -- хрэстаматыі для чырвонаармейцаў і падручнікаў для паліткіраўнікоў і групаводаў.

Ход выканання гэтай пастановы быў разгледжаны на пасяджэнні Нацкамісіі ЦВК БССР 13 сакавіка 1928 года. Яшчэ ў 1923 годзе на тэрыторыі рэспублікі была сфарміравана 2-я тэрытарыяльная дывізія і створана аб'яднаная школа камандзіраў. Да 1928 года вайсковая школа імя ЦВК БССР была ўкамплектавана курсантамі -- чырвонаармейцамі-беларусамі на 75 працэнтаў. Як пастаянны, так і пераменны састаў школы сістэматычна вывучаў беларускую мову. Перапіска вайсковай школы з мясцовымі ўстановамі праводзілася на беларускай мове. Быў павялічаны працэнт беларусаў сярод каманднага і палітычнага саставу тэрытарыяльных вайсковых часцей. Ніжэйшы камандны састаў тэрытарыяльных часцей больш чым на палову (62,3 працэнта) быў укамплектаваны беларусамі. У складзе кадравых беларускіх часцей --чырвонаармейцаў-беларусаў налічвалася ў 1928 годзе 73,2 працэнта, а сярод пераменнага саставу -- 85,2 працэнта. Значныя дасягненні адзначаліся ў галіне вывучэння беларускай мовы камандным і палітычным саставам. Беларускія вайсковыя часці былі забяспечаны баявым статутам, трыма часткамі стралковага статута і часовым дысцыплінарным статутам -- на беларускай мове.

Пераважна на беларускай мове вяліся палітзаняткі, выпускаліся насценныя газеты, афармляліся агітацыйныя стэнды і матэрыялы. Палітзаняткі ў беларускіх часцях у зімовы перыяд 1926--1927 гадоў праходзілі на беларускай мове (63--65 працэнтаў), прычым найбольшы працэнт (72) беларусізацыі палітзаняткаў быў у групах чырвонаармейцаў апошняга прызыву. Ліквідацыя непісьменнасці сярод чырвонаармейцаў у беларускіх часцях праводзілася поўнасцю на беларускай мове. У галіне беларусізацыі пазашкольнай працы сярод чырвонаармейцаў беларускіх часцей былі таксама значныя дасягненні. Матэрыялы нагляднай агітацыі пераважна (70 працэнтаў) выдаваліся на беларускай мове. Слабей беларусізавана была масавая групавая праца. Працэнт беларусізацыі тут вагаўся ад 10 да 30. Павялічылася колькасць беларускай літаратуры ў бібліятэках вайсковых часцей. Значная колькасць чырвонаармейцаў гаварыла на роднай мове. Былі зроблены захады да пераводу на беларускую мову страявой вучобы. У іншых вайсковых злучэннях, якія базіраваліся на тэрыторыі БССР, уводзілася вывучэнне беларускай мовы.

16 чэрвеня 1930 года на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК БССР была прынята пастанова "Аб становішчы беларусізацыі вайсковых часцей". У ёй адзначалася, што тэмпы беларусізацыі яшчэ недастатковыя, "назіраецца ў паасобных выпадках звядзенне беларусізацыі толькі да вывучэння беларускай мовы, пры адсутнасці больш глыбокага вывучэння эканомікі, гісторыі класавай барацьбы і гісторыі партыі як БССР, так і Заходняй Беларусі".

Прэзідыум ЦВК БССР прапанаваў Рэўваенсавету і паліткіраўніцтву БВА паставіць перад адпаведнымі органамі пытанне аб вайсковым навучанні грамадзянскага насельніцтва на беларускай мове (школы, тэхнікумы, ВНУ і інш.) і аб пераводзе ўсёй вайскова-палітычнай падрыхтоўкі ў АБВШ на беларускую мову.

Звярталася ўвага Рэўваенсавета БВА на неабходнасць больш паспяховага вырашэння задач па авалоданню беларускай мовай вышэйшым і сярэднім кампалітсаставам нацфарміраванняў і адпаведнага камплектавання апошніх.

У пастанове было запісана: "Лічыць неабходным працягваць і ў далейшым работу па выданню на беларускай мове адпаведных падручнікаў і статутаў для нацфарміраванняў БВА. У гэтых мэтах даручыць БАН стварыць тэрміналагічную камісію па распрацоўцы вайсковай тэрміналогіі. Праграму працы гэтай камісіі даручыць унесці на зацверджанне Нацкамісіі ЦВК".

Прэзідыум ЦВК БССР даручыў Нацыянальнай камісіі мець сталы нагляд за работай па беларусізацыі вайсковых часцей і за культурным абслугоўваннем у нацфарміраваннях нацменшасцей.

Даклад Нацкамісіі ЦВК БССР аб становішчы беларусізацыі ў 33-й стралковай дывізіі 26 чэрвеня 1932 года быў заслуханы на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК БССР.

Пытанне беларусізацыі вайсковых часцей разглядалі і акруговыя нацкамісіі. Так, на пасяджэнні Мазырскай акруговай нацкамісіі даклады аб становішчы беларусізацыі ў вайсковых часцях заслухоўваліся 30 мая 1928 года і 30 студзеня 1929 года.

Такая ўвага да беларусізацыі вайсковых часцей дала станоўчыя вынікі.

Зрухі абазначыліся на ўсіх напрамках беларусізацыі па рэспубліцы.

Беларусізацыя як практычнае ўвасабленне прынцыпаў суверэннага развіцця нацыі была адным з найбольш значных вырашальных фактараў, што абумовілі станаўленне беларускай культуры і рост свядомасці народа. Яна далучыла да культурнага будаўніцтва мільёны людзей.

У 1921 годзе была створана Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія, якая за 8 гадоў падрыхтавала 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі. Пільная ўвага была нададзена стварэнню беларускай вайсковай тэрміналогіі. Яе выпрацоўвала спецыяльная вайсковая камісія пры Інстытуце беларускай культуры. Спрыяла гэтаму і тое, што спецыяльная літаратура, адрасаваная артылерыстам, сапёрам і прадстаўнікам іншых прафесій, выдавалася па-беларуску. Таксама на беларускай мове пабачылі свет многія дапаможнікі па тактыцы, па тэорыі стральбы, вайсковыя статуты. Усяго, як сведчаць бібліёграфы, больш за 400 выданняў у 20-х --пачатку 30-х гадоў ілюстравалі ваенную справу па-беларуску. У 1927 годзе ў Мінску была выдадзена і першая частка "Практычнага беларускага вайсковага слоўніка" М.Байкова і А.Бараноўскага (каля 10 000 слоў). Дарэчы, у дваццатыя гады ў вайскоўцаў былі і свая беларуская газета, і свой беларускі часопіс. На беларускую мову пераводзіліся сродкі масавай інфармацыі, кінематограф, які толькі яшчэ нараджаўся. На беларускую мову была цалкам пераведзена сістэма ліквідацыі непісьменнасці. Непісьменны селянін атрымаў доступ да ведаў на сваёй роднай мове. Значна павялічылася ўдзельная вага беларусаў у саставе кіруючых работнікаў партыйнага, савецкага, прафсаюзнага і камсамольскага апарату. Гэта быў перыяд сапраўднай народнай творчасці.

На жаль, ён аказаўся вельмі кароткім. Беларусізацыю задушылі рэпрэсіі трыццатых гадоў. Яны нанеслі такі велізарны ўрон беларускай культуры, што мы яшчэ па сённяшні дзень не ў стане забяспечыць неабходныя ўмовы для яе развіцця.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

---

### ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ ВЁСАЧКУ НІЗОК?

У САМЫМ цэнтры Беларусі, дзе бярэ пачатак сівы бацька Нёман, раскінуўся Узденскі край. Пра гэты цудоўны куточак беларускай зямлі напісана шмат кніг, паэты-землякі ўслаўілі яго ў сваіх вершах. Значную крупінку ў яго самабытную культуру ўнесла вёсачка Нізок, што знаходзіцца ў міжрэччы Вусы і Нёманца. Заснаваная ў 1600 годзе, за сваю амаль чатырохвяковую гісторыю яна нарадзіла сваіх герояў, стварыла біяграфію, нечым падобную і адметную ад усёй Беларусі. Вучоныя сцвярджаюць, што кожны куточак зямлі на нашай планеце нараджае людзей, здольных да якой-небудзь адной прафесіі -- ваенных, палітычных дзеячаў, касманаўтаў і г.д. Наша Нізаўская зямля з яе непаўторнай прыгажосцю краявідаў, майскімі салаўінымі песнямі ў вербалозах, запаволеным цячэннем Вусы, чыстымі расінкамі ў промнях узыходзячага сонца нарадзіла не толькі выдатных хлебаробаў, урачоў, настаўнікаў. Яна дала Беларусі выдатных людзей творчай прафесіі. Тут нарадзіўся Паўлюк Трус -- беларускі Ясенін, як называюць паэта за чыстыя, прасякнутыя бясконцай любоўю да роднага краю лірычныя вершы. У гэтым годзе 6 мая мы будзем святкаваць 90-годдзе з дня яго нараджэння.

Свой жыццёвы шлях пачаў у Нізку і выдатны сатырык Кандрат Крапіва. З простага вясковага настаўніка ён вырас да драматурга-класіка. Яго вострыя байкі, злабадзённыя п'есы заўсёды выкрывалі адмоўныя бакі нашага грамадства, сцвярджалі агульначалавечыя каштоўнасці.

Эстафету творчасці падтрымала Лідзія Арабей, кандыдат філалагічных навук. Да сённяшняга дня пісьменніца не парывае сувязей з радзімай. Цёплыя адносіны склаліся ў яе з калектывам мясцовай школы. На адной з апошніх сустрэч з вучнямі Лідзія Львоўна шчыра прызналася, што лічыць іх сваімі нашчадкамі.

У вёсцы нарадзіўся вядомы беларускі акцёр, народны артыст Беларусі Анатоль Трус, які больш за 30 гадоў працаваў у Віцебскім драматычным тэатры. З дапамогай мяккіх лірычных фарбаў, гумару, жыццёвай пераканаўчасці ён стварыў вобразы нашых сучаснікаў. Калі аднаўляць усе звенні гісторыі, то нельга не сказаць, што побач з нашай вёскай стаіць маёнтак вядомага вучонага канца XIX стагоддзя Якава Наркевіча-Ёдкі. Як сцвярджаюць сучаснікі, гэта быў "адзін з тых ідэалістаў, якія не любяць ні шуму славы, ні мэтафізічных брэдняў, а працуюць толькі ў пошуках разумнай ісціны".

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*ДА 85-годдзя БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА Сяргея ДАРОЖНАГА*

# НЕ БЫЦЬ КРЫЖАМ ПРЫ ДАРОЗЕ

Таленавіты беларускі паэт Сяргей Дарожны (Сяргей Міхайлавіч Серада) нарадзіўся 25 лютага 1909 года ў Слоніме ў сям'і прапаршчыка царскай арміі. Ранняе дзяцінства яго прайшло ў родным горадзе.

Калі пачалася першая сусветная вайна, бацька пайшоў на фронт, а сям'я эвакуіравалася аж у Варонеж. На жаль, бацька ўжо не вярнуўся, а маці Сяргея Дарожнага з сям'ёй у 1918 годзе прыехала ў вёску Ляскавічы (цяпер Петрыкаўскі раён). Маці з дзецьмі давялося зведаць шмат гора, бо цяжка адной было гадаваць і выхоўваць чацвёра дзяцей. Таму Сяргея, Марыю і Надзею яна афарміла ў Мазырскі дзіцячы дом, а з малодшай дачкой Верай засталася ў вёсцы.

У 1924 годзе Сяргей Дарожны скончыў сямігодку і паступіў у педтэхнікум, а з трэцяга курса перавёўся на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У адзін са шчаслівых дзён 1925 года ў рэдакцыю газеты "Беларуская вёска" Сяргей прынёс сшытак сваіх вершаў. Кузьма Чорны, загадчык літаратурнага аддзела газеты, просіць яго пачытаць свае творы. І юнак чытае:

**Беларусь больш не стане крыжам**
**Пры дарозе, з Хрыстом распятым...**

Вочы Кузьмы Чорнага цяплеюць ад гэтых слоў верша. Ён нават расчуліўся: дужа спадабаліся радкі маладога паэта.

З той пары вершы Сяргея Дарожнага пачынаюць з'яўляцца ў перыядычным друку. Ён становіцца членам



літаратурнай арганізацыі "Маладняк", а з 1926 года ўваходзіць у аб'яднанне "Узвышша". Каб глыбей пазнаёміцца з жыццём рабочых, паэт паехаў працаваць на шкляную гуту ў Барысаў, а адтуль прывозіў вершы:

**І запелі нашы трубы,**
**Нашы сэрцы -- помсты гімн.**
**І ўзняліся шаблі ў свісце**
**Пад штандарам баявым...**

У 1926 годзе ў сааўтарстве з І.Плаўнікам паэт Сяргей Дарожны выпускае першы зборнік вершаў "Звон вясны". Пасля былі кнігі "Васількова россып" (1929 год), "Пракосы на памяць" (1932 год).

Галоўнай тэмай паэта С.Дарожнага, як і ўсіх яго равеснікаў, было новае пераўтварэнне рэспублікі. Паэт славіў гераічныя будні Беларусі, апісваў хараство Палесся і гаротнасць палешукоў. Ён вельмі часта наведваў вёску, дзе жыла яго маці, якую моцна любіў:

**Вось ён, добры мой прытулак!**
**Колькі год і колькі зім...**
**-- Добры дзень, мая матуля!**
**Гэта я -- Сяргей, твой сын.**

Найбольш за ўсё талент паэта раскрыўся ў лірыцы. "Калі ў заключэнне выступіў наш галоўнакамандуючы -- Сяргей Дарожны -- і прачытаў свой верш "Белымі пялёсткамі", зала грымела. Апладысменты не змаўкалі, яго прасілі чытаць і чытаць", -- успамінае Павел Пруднікаў.

Вельмі папулярнай у 30-я гады была песня Сяргея Дарожнага "Нявеста". Яна амаль штодня гучала па радыё, яе спявалі многія хары Беларусі.

Сяргей Дарожны быў вядомы і як перакладчык. У самым пачатку 30-х гадоў асобнымі кнігамі выйшлі творы рускіх пісьменнікаў К.Алтайскага, М.Кальцова, У.Караленкі, Г.Караваевай, А.Новікава-Прыбоя, якія на беларускую мову пераклаў С.Дарожны. Пераклаў ён таксама паасобныя творы Э.Багрыцкага, А.Безыменскага, А.Твардоўскага, І.Эрэнбурга і многіх іншых аўтараў.

Рыхтаваўся да друку і чацвёрты зборнік паэзіі нашага земляка, але выйсці ён не паспеў: 29 жніўня 1936 года органы НКУС арыштоўваюць паэта і асуджаюць на восем гадоў пазбаўлення волі. Ён быў абвінавачаны ў падрыхтоўцы ўзброенага замаху на першага сакратара ЦК КП(б)Б М.Гікалу, пра якога збіраў матэрыял для будучай кнігі.

Пакаранне адбываў Сяргей Дарожны ў папраўча-працоўных лагерах Далёкага Усходу. Спачатку працаваў у брыгадзе лесарубаў, прабіваў трасу праз горы і тайгу на Нікалаеўск, а потым на Саўгавань. Пры невядомых абставінах Сяргея Дарожнага ўлетку 1943 года не стала. Гэта было ў Камсамольску-на-Амуры.

Па хадайніцтву сястры паэта Надзеі Міхайлаўны Юшкевіч, якая жыве зараз у Мінску, Сяргей Дарожны ў 1957 годзе быў рэабілітаваны і адноўлены ў Саюзе пісьменнікаў. А ў 1966 годзе свет пабачыла невялічкая кніжачка яго "Выбраных твораў".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# А У НАС СЁННЯ МАСЛЕНІЦА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Чацвер на Масленым тыдні, які ў іншых раёнах называўся Валоссе, на думку вучоных, адзначаўся ў гонар язычніцкага боства Велеса, які лічыўся апекуном жывёлы. Часам гэты дзень называўся "святы Улас", ці Аўлас, што суадносіцца з імем хрысціянскага святога, які часткова прыняў на сябе функцыі Велеса. У Драгічынскім раёне "на Волосого бліны пыклы і оладкы, коб булы волы гладкы". У гэты дзень аб'язджалі маладых жарэбчыкаў ці валоў, рыхтавалі новыя сані і абкатвалі іх. Калі яны вытрымлівалі вялікую групу моладзі, што ўсаджвалася на Іх, і зляталі з гары цэлымі, то лічыліся годнымі ў гаспадарцы. Назіралі за маладым канём ці валом: калі яны неахвотна ішлі дахаты, трухалі з апушчанай галавой, то рабілі вывад, што жывёлу лепш збыць. Сяляне "валачыліся" ўздоўж вёскі, каб такі ж валакністы ўрадзіўся лён і вадзілася жывёла. Мнгогія з прадпісанняў выконваюцца і сёння, але часам кажуць і так: "На Валосся цягалі за валосся, але Валоссе цяпер ужо звялося".

Адметна, што на Масленку адбывалася, з аднаго боку, ушанаванне маладых сем'яў, што ўзялі шлюб за апошні год, а з другога -- рытуальнае пакаранне нежанатых хлопцаў. У Круглянскім раёне жанчыны, сабраўшыся гуртам, хадзілі ад хаты да хаты да маладух-жанчын, якія нядаўна выйшлі замуж, і спявалі:

**Маладая маладуха,**
**ці таўстоя ў цябе бруха!**
**Масленка, Масленка.**
**А вынесь сыра --**
**родзіш сына,**
**Масленка, Масленка.**
**А вынесь мачку --**
**родзіш дачку,**
**Масленка, Масленка.**

Маладуха павінна была частаваць кожную з жанчын загадзя падрыхтаванай сырніцай -- салодкім тварагом і даць па абаранку. Адбывалася як бы залічэнне маладой жанчыны да вясковай жаноцкай супольнасці, прызнавалася яе права і абавязак -- прадаўжаць род.

А вось да хлопцаў, якія да гэтага часу, як кажуць, "не ачалавечыліся", адносіліся інакш. Бабы збіраліся, бралі пояс ці паппругу і прывязвалі да аднаго яго канца тоўсты абрубак дрэва, які называўся "калодкай", а другі канец пояса прывязвалі да нагі хлопца як бы ў пакаранне за тое, што дагэтуль не ажаніўся. Калі хлопец не пажадае насіць такі цяжар, ён навінен быў пачаставаць іх ці даць некалькі манет.

Масленічны звычай "цягаць калодку" меў на Беларусі самыя разнастайныя формы. У Докшыцкім раёне хлопцы і дзяўчаты бралі вялікую драўляную калоду, падпальвалі яе і качалі з канца ў канец па ўсёй вёсцы, співаючы:

**Калода рагочыць,**
**Сыра, масла хочыць.**

Толькі ў Лепельскім раёне зафіксавана тры варыянты гэтага цікавага звычаю. Так, у адных вёсках два-тры гаспадары пачыналі каціць калодку ад крайняй хаты. Яны падкатвалі калодку да варот, не абмінаючы ніводнага двара. З хаты выходзілі ці гаспадар, ці гаспадыня і далучаліся да працэсіі. К канцу вёскі збіраўся вялікі гурт, пачыналася частаванне, гулянне, весялосць. А ў другіх вёсках хлопцы бралі калоду як мага большую, падліралі ёю дзверы ў хаце. Тады гаспадар, каб мець магчымасць выйсці, бо ўласнымі сіламі адкаціць калодку не атрымлівалася, павінен быў паставіць на яе гарэку і пачаставаць хлопцаў. Выпіўшы і павіншаваўшы гаспадароў, гурт адпраўляўся да наступнае хаты.

А вось у суседніх вёсках на Масленку хлопцы запрагалі коней і запрашалі сваіх сяброўак катацца. Жанатыя ж мужчыны, сабраўшыся разам, хадзілі па вёсцы, пільнуючы, каб з'явілася на вуліцы якая з жанчын. Дачакаўшыся, хапалі яе, з жартам усаджвалі на саначкі і ўрачыста везлі да яе хаты: тая павінна была пачаставаць сваіх захопнікаў. Мужчыны смяяліся і прыпявалі:

**Бабка калодка, калодка,**
**Твая гарэлка салодка,**
**салодка.**

Маладзенькія дзяўчаты стараліся ўкрасці ў каго-небудзь з суседзяў некалькі палак дроў і застацца пры гэтым незаўважанымі. Рабілася гэта для таго, каб хутчэй выйсці замуж. Уночы дзяўчаты, не палячы святла, заходзілі да каровы ў хлеў і навобмацак шукалі яе. Калі спачатку датыкаліся да хваста -- выйдзеш замуж за багатага, а калі да рог, то за беднага. Больш смелыя падыходзілі да акна ў лазні і, падняўшы спадніцы, станавіліся да яго. Калі лазеншчык дакранецца да дзяўчыны Цёплай калматай рукой -- пойдзеш замуж за багатага, а халоднай -- за беднага. Вядома, ніхто да іх не дакранаўся, але подых ветру ці проста фантазіі дзяўчат падказвалі пэўныя "рашэнні", бо кожная хацела мужа маладога і прыгожага. Аб тым і спявалі на Масленку:

**Пойдзем мы, дзевачкі,**
**а за мора ў красачкі,**
**Глянем мы, дзевачкі,**
**хто за намі гоніцца.**
**А гоніцца за намі**
**стары дзед нядужы.**
**Возьмем мы, дзевачкі,**
**старога за ручкі,**
**Кінем мы, дзевачкі,**
**старога ў крапіўку.**
**Крапівай завалім**
**і калодай закацім.**
**Пойдзем мы, дзевачкі,**
**а за мора ў красачкі,**
**Глянем мы, дзевачкі,**
**хто за намі гоніцца.**
**Гоніцца за намі**
**малады суджэнька.**
**Возьмем мы, дзевачкі,**
**маладога пад пашкі,**
**Кінем мы молайца**
**ў мякку пярыну.**

Заканчвалася Масленіца ў нядзелю. У розных славянскіх народаў у гэты дзень спраўлялі "Провады Масленкі" -- саламянага пудзіла, якое вывозілі за аколіцу, дзе былі пасеяны азімыя, і там спальвалі. Попел рассейвалі і таптолі ў снег, каб палетак даў добры ўраджай, каб памершае на зіму зерне зноўку адрадзілася ва ўсёй моцы і прыгажосці. На Беларусі Масленку палілі не паўсюдна. Часцей распальвалі проста як мага вышэйшыя вогнішчы. Палілі, каб наблізіць зямны агонь да нябеснага, да Сонца, і тым паскорыць надыход вясны і цяпла.



У апошні дзень Масленіцы раней быў добры звычай "развітвацца". Гаспадар садзіўся на кут. Да яго па чарзе падыходзілі браты і сыны, а пасля і жанчыны і, кланяючыся да зямлі, гаварылі: "Прабач, бацька родны, калі чым саграшыў перад табою, справай ці языком". Пасля таго, як усе дамачадцы "развітаюцца", гаспадар сыходзіў са свайго месца і ў сваю чаргу кланяўся да зямлі ўсяму свайму сямейству, просячы таксама даравання за свае грахі і памылкі.

Пасля Масленкі, у першы дзень Вялікага посту, мужчыны збіраліся "паласкаць зубы". Гэта "паласканне зубоў" заключалася ва ўзаемным частаванні гарэлкай. Чысціць зубы быццам бы трэба для таго, каб выпадкова там не застаўся кавалачак скаромнай ежы. Расказваюць даволі характэрны ў гэтым сэнсе анекдот: "Адзін цыган пытаўся ў ксяндза, ці можна есці тое мяса, што застаецца ў зубах пасля Запустаў. Ксёндз сказаў: "А які ж то можа быць грэх, як засадзіў ты яго ў зубы, то ўсё роўна, што і з'еў". Вось цыган на другія Запусты ўзяў вялікі кавалак сала і засадзіў яго адным канцом у зубы -- і гэтак пераначаваў. Пасля ўжо цэлы пост варыў страву з гэтым салам".

Пачынаўся пост...

**Мы думалі Масленкі**
**сем нядзеляк, сем нядзеляк.**
**Ажно Масленкі**
**сем дзянёчкаў, сем дзянёчкаў.**
**Нас Масленка**
**абманіла, абманіла,**
**На сем нядзель поста**
**пасадзіла, пасадзіла.**

**Таццяна ВАЛОДЗІНА.**

# ПРАЕКТ СВАЁЙ ПАТРЫЯРХІІ

Погляды Я.Руцкага і М.Сматрыцкага на стратэгію і тактыку ўз'яднання Цэркваў амаль цалкам супадалі, пра што яскрава сведчыць перапіска між імі за 1628 год. Яны абодва пагаджаліся з неабходнасцю паэтапнага збліжэння Усходняй і Заходняй Цэркваў, прычым, на іх думку, сусветнаму ўз'яднанню мусіць папярэднічаць поўнае зліццё Хрыстовай Царквы ўсходняга абраду ў межах Вялікага Княства Літоўскага і ўтварэнне вялікакняскай патрыярхіі. 2 сакавіка 1628 года М.Сматрыцкі ў лісце да Я.Руцкага пісаў: "Пакуль уся Руская Царква не будзе прыведзена да адзінства, да таго часу дарэмныя клопаты пра грэкаў светагорцаў, маскавітаў і іншыя народы, якія вызнаюць усходні абрад. Таму трэба прыкласці ўсе сілы, каб перааадолець разлад у сябе дома і толькі тады, узброіўшыся малітваю і пакладаючыся на Божую помач, яднаць усе іншыя народы грэцкае веры".

Блізу 1628 года Я.Руцкі паспрабаваў далучыць да свайго глабальнага праекта аўтарытэтнага ў асяроддзі праваслаўных чалавека, архімандрыта Кіева-Пячорскай лаўры Пётру Магілу. Той напачатку нібыта даў згоду, пра што паведамляў М.Сматрыцкі ў лісце да Я.Руцкага, але пасля чамусьці перадумаў. Магчыма, на яго паўплывалі бурныя падзеі трох праваслаўных Сабораў -- Кіеўскага (верасень 1627 года), Гродзецкага (вясна 1628 года) і Кіеўскага (жнівень 1628 года). Асаблівы рэзананс меў жнівеньскі Сабор, дзе адбылося выкрыццё М.Сматрыцкага і асуджэнне ягонай дзейнасці на карысць вуніі.

На Варшаўскі Сойм 1629 года прадстаўнікі вуніятаў, якіх узначальваў архімандрыт Жыдзічынскага манастыра Язэп Бакавецкі, вынеслі пытанне аб урэгуляванні дачыненняў паміж вернікамі ўсходняга абраду. Дыскусіі з праваслаўнымі, лідэрам якіх там выступаў Язэп



Бабрыковіч, скончыліся падпісаннем праекта Соймавай Канстытуцыі аб скліканні агульнага Сабора.

29 сакавіка 1629 года Жыгімонт Ваза ў лісце да Я.Руцкага паведаміў, што ён дазваляе правесці супольны Сабор праваслаўных і вуніятаў у Альбове 28 кастрычніка 1629 года, а папярэднія, партыкулярныя Саборы прызначае на 9 ліпеня -- для вуніятаў ва Уладзіміры-Валынскім, а для праваслаўных у Кіеве.

У выбары месца правядзення агульнага Сабора Я.Руцкі нейкі час вагаўся паміж Альбовам і Луцкам. Але аргументы Я.Бакавецкага, выказаныя ім у лісце да мітрапаліта 1 красавіка 1629 года, а таксама довады кіеўскага ваяводы князя Заслаўскага, які да таго ж паабяцаў у выпадку правядзення Сабора ў Альбове ўтрымліваць прадстаўнікоў "на сваёй правізіі", канчаткова спынілі выбар Руцкага. За Альбоў выказаўся і кіеўскі біскуп. Урэшце 31 траўня 1629 года вялікі князь, атрымаўшы згоду Я.Руцкага, накіраваў у Альбоў Грамату, у якой загадваў магістрату зрабіць усё неабходнае для правядзення Сабора.

Справа пакрысе рухалася наперад. Але нечакана з боку праваслаўных пачалі раздавацца пратэсты. Супроць прызначанага Генеральнага Сабора, на якім меркавалася паяднанне вуніятаў з невуніятамі, першы выступіў праваслаўны жаўнерскі полк, які вёў баявыя дзеянні пад Мальборкам. 29 чэрвеня 1629 года запарожскія казакі таксама накіравалі ліст кіеўскаму праваслаўнаму мітрапаліту Іову Барэцкаму, у якім выказалі намер са зброяй у руках "бараніць праваслаўную веру бацькоў". Нарэшце 5 ліпеня 1629 года свой пратэст заявіла шляхта Кіеўскага ваяводства. У выніку шматлікіх пратэстаў партыкулярны Сабор праваслаўных у Кіеве не адбыўся.

Аднак і пасля гэтага Я.Руцкі не губляў надзеі на станоўчы зыход. Ён засяроджваецца на падрыхтоўцы праекта ўз'яднання вуніятаў з невуніятамі на Альбоўскім Саборы, абмяркоўвае з найбліжэйшым атачэннем прынцыпы функцыянавання абноўленай Царквы, яе Сімвал веры. Да нашых дзён захаваўся тэкст падрыхтаванага мітрапалітам праекта, змест якога якраз дазваляе зразумець сапраўдную пазіцыю і погляды Я.Руцкага на сутнасць царкоўнага задзіночання. У праекце, які складаўся з 6 артыкулаў, зазначалася:

1. Ніхто з вернікаў усходняга абраду не можа ўжываць у Сімвале веры, дзе гаворыцца пра зыходжанне Святога Духа, словы "і ад Сына". Але, разам з тым, ніхто з іх не павінен ганіць лацінянаў і называць іх ерэтыкамі за тое, што яны вызнаюць зыходжанне Святога Духа "і ад Сына". Усе вернікі ўсходняга абраду мусяць верыць: Святы Дух зыходзіць ад Айца праз Сына. Лаціняне, са свайго боку, не павінны называць іх за гэта ерэтыкамі;

2. Усе вернікі ўсходняга абраду вераць у існаванне нейкага трэцяга месца, дзе душы памерлых затрымліваюцца для выкупу, чакаючы ад людзей малітваў за іх. Ніхто, аднак, не абавязаны верыць, што ў тым месцы ачышчэнне душаў адбываецца абавязкова праз агонь. Кожны вольны лічыць як хоча -- ці праз агонь, ці без яго;

3. Усе вернікі ўсходняга абраду мусяць верыць, што душы святых знаходзяцца на небе і там сузіраюць Бога. У сваіх малітвах сапраўдныя хрысціяне павінны звяртацца да душаў святых;

4. Вернікі ўсходняга абраду, на якіх распаўсюджваецца ўлада Яго Каралеўскае Міласці, -- знаходзяцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха пры ўмове, што ён верыць гэтак жа, як і яны, а таксама дасылае Яго Каралеўскае Міласці пасля пасвячэння сваю споведзь веры;

5. Ніхто з лацінянаў не павінен сцвярджаць, што Усходняя Царква не мае праўдзівай формы таямніцаў і што цяперашнія канстанцінопальскія патрыярхі не маюць той улады, якую мелі іх папярэднікі. Лацінянам нельга ганіць вернікаў усходняга абраду за мясаядзенне па суботах і за адпраўленне літургіі з квасным хлебам;

6. Усе вернікі ўсходняга абраду лічаць Рым галоўнай сталіцай Хрысціянства, а папу рымскага -- першасвятаром. Папа рымскі -- найстарэйшы над усімі хрысціянскімі іерархамі, таму ён займае галоўнае месца ў часе Сабораў. Яму ж належыць права склікаць Сусветныя Саборы. Як намесніку Апостала Пятра, папу рымскаму павінны гэтаксама дасылацца пастановы ўсіх мясцовых Сабораў.

Пасля 23 кастрычніка 1629 года з праектам Я.Руцкага на руках у Альбоў пачалі з'язджацца найвышэйшыя вуніяцкія іерархі -- епіскапы, архіерэі, а таксама прадстаўнікі Амсціслаўскага, Смаленскага і Віцебскага брацтваў, паслы манастыроў. Мітрапаліт Я.Руцкі і прызначаныя вялікім князем камісары -- А.Астрожскі-Заслаўскі і Адам з Брусілава Кісель -- прыехалі з початам.

Усе з нецярпеннем чакалі праваслаўных. Нарэшце прыбылі прадстаўнікі Віленскага праваслаўнага брацтва, але не было найвышэйшага кліра -- мітрапаліта І.Барэцкага і епіскапаў. Трывога з кожнай хвілінай узрастала. У сэрцы Я.Руцкага з'явіліся нядобрыя прадчуванні.

Раніца 28 кастрычніка -- дзень адкрыцця Сабору -- не прынесла суцяшэння. У часе абедні ў Кафедральным саборы, у прысутнасці Я.Руцкага і ўсяго вуніяцкага духавенства, езуіт Мацей Бембус выступіў з усхваляванай прамовай, заклікаючы да яднання і міру. Але праваслаўныя так і не з'явіліся. Я.Руцкі мусіў абвясціць Сабор закрытым.

На наступны дзень панылы мітрапаліт сустрэўся з прадстаўнікамі вуніяцкіх манастыроў. 31 кастрычніка на просьбу князя А.Заслаўскага адслужыў імшу па ягоным бацьку і наведаў Альбоўскае праваслаўнае брацтва, дзе дамовіўся аб правядзенні прыватнай нарады. Яна сапраўды адбылася 2 лістапада, але скончылася бясплённа -- узаемнымі абвінавачваннямі і крыўдамі.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 9 —10.**





**Дзіцячая школа іканапісу і прыкладных мастацтваў працуе пры Кірыла-Мефодзіевым праваслаўным брацтве. Трапіць у яе няпроста. Усе выхаванцы пачыналі сваё духоўнае выхаванне ў нядзельных праваслаўных школах. Толькі такі шлях, лічыць кіраўнік студыі Вячаслаў Шугала, дазваляе юным мастакам зразумець вытокі старажытнага мастацтва.**

**Займаюцца дзеці з захапленнем. Дастаткова сказаць, што і Юля Матэрнік, і Юрый Навагродаў, і Каця Ліштван маюць ужо цэлыя калекцыі сваіх работ. Ды і кіраўнік студыі -- вялікі энтузіяст сваёй справы.**

**НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік школы іканапісу і прыкладных мастацтваў Вячаслаў ШУГАЛА займаецца з пачынаючымі мастакамі Ларысай АСТРЭЭМСКАЙ і Ірынай АБРАМОВІЧ; Каця ЛІШТВАН са сваёй новай работай.**

ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

# КРАЙ, ПРЫГОЖЫ СВАІМІ ЛЮДЗЬМІ

Межы беларускай кнігавыдавецкай справы ўжо даўно пашырыліся сваімі прасцягамі далёка ад беларускай сталіцы. І не дзіўна зараз сустрэць у друку інфармацыю аб тым, што ў Слуцку ці то ў Полацку пабачыла свет тая ці іншая кніжка. Вось як і ў Жлобіне. Там накладам пяць тысяч паасобнікаў надрукаваны зборнік нарысаў Аляксандра Капусціна "Добрым сэрцам чалавечым". У невялікай памерам кніжцы сабраны расповяды пра землякоў.

Нарысы Капусціна ўяўляюць цікавасць не толькі для жыхароў Жлобіншчыны і мясцовых краязнаўцаў, а маюць шмат шырэйшы адрас. Ужо знаёмства з адным з першых герояў кнігі як быццам дорыць адкрыццё. Пісьменнік расказвае пра Міхаіла Башылава, сучасніка і добрага знаёмца Льва Талстога, ілюстратара яго неўміручага твора "Вайна і мір".

Адлюстраваннем сапраўднага пісьменніцкага пошуку з'яўляецца і нарыс "Яго сіняя птушка", прысвечаны Рыгору Васільеву, пакутніку за народнае шчасце. У 1907 годзе Рыгора Васільева напаткала доля, наканаваная многім рэвалюцыянерам тае пары. Малады чалавек атрымаў чатыры гады катаржнай турмы, але на гэтым няволя не скончылася. Пасля астрога царскія ўлады вызначылі яму пажыццёвае пасяленне ў Якуціі. Пра шляхі-дарогі нашага земляка ў Якуціі, а пасля і ў іншых месцах ссылкі пісьменнік не проста падрабязна расказвае, а піша ўзнёсла, змацыянальна, тым самым сцвярджаючы адметнасць свайго героя.

За ўвагай да падзей нядаўняга мінулага мы надзвычай паспяхова пачалі забывацца на гісторыю перадкастрычніцкай пары. А, між іншым, яшчэ колькі дзесяткаў гадоў назад вакол нас, з намі жылі людзі -- сведкі больш даўняй гісторыі. Адзін з іх герой нарыса "Грэнадзёр" Павел Канаплянікаў, салдат імперыялістычнай, ратныя подзвігі якога адзначаны Георгіеўскімі крыжамі і Георгіеўскімі медалямі. А яшчэ ў творы — і пра жыццёвую мудрасць, храбрасць, што праявіў Павел Міхайлавіч у Вялікую Айчынную, хаваючы грамадскае дабро.

Выклічуць цікавасць чытачоў і нарысы Аляксандра Капусціна, прысвечаныя іншым ураджэнцам Жлобіншчыны, -- пісьменнікам Міколу Лупсякову і Рыгору Добіну, вучонаму Мацвею Данілаву і франтавіку Мікалаю Кавалёву. І хаця нарысы вызначаюцца сціласцю, лаканічнасцю, праз гэтыя нямногія старонкі чытач як бы сутыкаецца з чалавечай дабрынёю, з душэўнай шчодрасцю тутэйшых людзей. Некаторых герояў сваёй кнігі А.Капусцін ведаў асабіста. І гэта таксама адчуваецца.

Але вось пра што яшчэ хацелася б сказаць, перагарнуўшы апошнія старонкі кнігі, выдадзенай у Жлобіне. Зборнік нарысаў "Добрым сэрцам чалавечым" пераконвае, што і ў правінцыяльнай глыбінцы можна выдаваць кнігі, створаныя рукамі, душой і сэрцам вопытных прафесійных літаратараў. І, канешне ж, найперш -- кнігі краязнаўчага накірунку, тыя творы, што адлюстроўваюць гістарычную мінуўшчыну, сучасныя рэаліі таго ці іншага рэгіёна.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**





Масленіца — вясёлае народнае свята перад Вялікім постам. У артыкуле "А у нас сёння Масленіца", змешчаным у сённяшнім нумары "Голасу Радзімы", расказваецца, як адзначалася гэта старадаўняе народнае свята раней і як святкуецца яно ў нашы дні. Па вёсках гучыць музыка, гаспадыні пякуць бліны, абрадавымі песнямі сустракаюць людзі вясну.

Наш фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР зрабіў фотаздымкі на Масленіцу ў Мінску (адзін з іх змешчаны на 6-й стар.). І ў цяжкія часы людзі радуюцца жыццю, сонцу, жыве ў іх сэрцах надзея, што разам з холадам і пачарнелым снегам сыдуць трывогі і няпэўнасць.

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ ВЁСАЧКУ НІЗОК?

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

Імя вучонага было шырока вядома як у Беларусі, так і за яе межамі: у Пецярбургу, Берліне, Вене, Парыжы, Рыме. У 1896 годзе ў Парыжы была выдадзена кніга пра жыццё і дзейнасць Наркевіча-Ёдкі. З кожным годам цікавасць да жыццёвага шляху вучонага абуджаецца ўсё болей і болей.

Нашы маляўнічыя мясціны натхнялі і старэйшага самадзейнага кампазітара Беларусі Паўла Шыдлоўскага. Чалавек з цікавым лёсам, вялікай жыццёвай мудрасцю, ён заўсёды лічыўся адным з самых разумных людзей вёскі. Павел Іванавіч праявіў сябе як таленавіты арганізатар народнага хору -- тры пакаленні вяскоўцаў прайшлі праз гэты творчы калектыў. Песню "Пасаджу каліну ў полі" ведаюць далёка за межамі Беларусі і па праву лічаць адной з лепшых у творчасці кампазітара. Яе жыццесцвярджальныя радкі яшчэ раз напамінаюць аб тым, што жыццё працягваецца. І тым, хто прыняў эстафету ад таких вядомых землякоў, кожны з якіх варты быць увекавечаным у гісторыі Беларусі, абавязкова патрэбна памятаць словы выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча:

"Не пагарджаць
святым сваім мінулым,
А заслужыць яшчэ
і вартым быць яго".

На сённяшні дзень невялічкая школа, што размяшчаецца ў Нізку, з'яўляецца адзіным цэнтрам адраджэння гісторыі вёскі, імёнаў выдатных людзей, якіх лёс звязаў з нашым краем. Дарэчы, і сама школа мае багатую спадчыну: сёлета будзе адзначацца яе 110-годдзе. Вучні і настаўнікі вядуць вялікую пошукавую работу, сустракаюцца з мясцовымі старажыламі, запісваюць іх успаміны. Усё часцей і часцей прыходзім да высновы, што кожны народ меў бы за гонар валодаць такім нацыянальным багаццем, як наша Нізаўская зямля. Ужо некалькі гадоў прыкладаем шмат намаганняў для стварэння ў школе краязнаўчага музея. Створана творчая група мастакоў, якую ўзначальвае адзін з лепшых мастакоў рэспублікі Ю.Багушэвіч. Але ж сродкаў, заробленых калектывам школы, для працягу работ не хапае. Вось і вырашылі мы звярнуцца да тых, хто неабыякавы да справы адраджэння нацыянальнай культуры. Будзем шчыра ўдзячныя ўсім, хто адгукнецца на наш зварот. Парада, цікавы матэрыял, грашовыя сродкі -- усё гэта будзе каштоўным укладам у стварэнне будучага музея. Акрамя таго, спадзяёмся знайсці цікавых людзей, якія захочуць падтрымліваць з намі сувязі.

**Калі хто адгукнецца на наш зварот, то сродкі можна пералічваць на рахунак № 000142809, код № 910 у райаграпрамбанку г.п. Узда Мінскай вобласці. Выканкому Уздзенскага с/с (для музея Нізаўскай школы).**

**Вольга СУТКАЛЕНКА.**

# ШТО ЗА ЦУД — САЛОМКА!

У гэтым можна пераканацца, наведаўшы Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў. Менавіта тут працуе выстаўка, якая так і называецца "Гэты цуд -- саломка". Прадстаўлены на ёй самыя розныя кампазіцыі... кветак. Быццам жывыя на пано цюльпаны, нарцызы, галінка бэзу... А ўсё -- дзякуючы дзеткам са Слуцка, якія наведваюць гурток, што працуе на мясцовай станцыі натуралістаў. Кветкі яны робяць са звычайнай саломкі, належным чынам яе апрацаваўшы. Сёння, калі ў дзяцей прыкметна паменшала радасці, хоць прага прыгожага робіць ім больш сонечнымі ўвогуле змрочныя будні, як і кожнаму, хто наведвае выстаўку.

## *ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ФАЛЬКЛОРУ*

### ШЧЫРЫЯ ПРЫХІЛЬНІКІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ПЕСНІ!

"Голас Радзімы" пачынае публікаваць лепшыя ўзоры беларускіх народных песень з надзеяй, што гэта дапаможа фальклорным калектывам, асабліва з замежжа, прыгожа праспяваць іх на фестывалі. Мы гатовы таксама выканаць вашы просьбы аб надрукаванні іншых вашых любімых песень, аб чым вы можаце напісаць у рэдакцыю або ў Асацыяцыю фалькларыстаў Беларусі на адрас: **220050, МІНСК, вуліца Маркса 24, пакой 27, Васілю Ліцвінку.**

З радасцю прадстаўляем вам для пачатку жаночую песню-баладу ўдавы, якая запісана намі ў 1992 годзе ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна ад Любы Бабруковіч, і мужчынскую казацкую, запісаную ад Аляксандра Казла ў вёсцы Церабяжоў Столінскага раёна -- абодва запісы з Берасцейшчыны. З нецярпеннем чакаем вашых водгукаў. Спявайце дзеля радасці!

З глыбокай пашанай

**Васіль ЛІЦВІНКА,**
**Уладзімір РАГОВІЧ.**

## ОЙ, У ЛЕСЕ НА АРЭСЕ




**Ой, у лесе на арэсе
Там цяцерка кубло віла.
Ой, ізвіўшы, абляцела,
Абляцеўшы, шчабятала:
-- Зжалься, Божа, кубла мойго,
Што й няма сокала мойго.
Не з кім рана й уставаці,
Цёмным лесам пралятаці.
Цёмным лесам пралятаці,
Дробных пташак прабуджаці.
Адазваўся салавейка:
-- Ой, ты не плач, цяцерачка.
У тваім кубле сокалам буду,
Тваім дзеткам бацькам буду,
Будзем рана ўставаці,
Цёмным лесам пралятаці.
Цёмным лесам пралятаці,
Дробных пташак прабуджаці.
Ой, у месцы на рыначку
Там удова двор будуе.
Там удова двор будуе,
Усё ў сярэдзіне малюе.
Ўмалявала, аб'ехала,
Аб'ехаўшы, заплакала:
-- Зжалься, Божа, двара мойго,
Што й не мае пана мойго.
Не з кім рано уставаці,
Па пакоях пахаджаці,
Па пакоях пахаджаці,
Малых дзетак пабуджаці.
Адазваўся гордан вольны:
-- Ой, ты не плач, удовушка,
У тваім двары панам буду,
Тваім дзеткам бацькам буду,
Будзем рана уставаці,
Малых дзетак пабуджаці,
Малых дзетак пабуджаці,
На работу пасылаці.**

## ОЙ, ЗІМА, ЗІМА, ТЫ, МАРОЗНАЯ




**Ой, зіма, зіма, ты, марозная,
Нашто ж ты каня, эй, замарозіла![1]
Каня белага, сівагрывага,
Хлопца й малайца, эй, чарнабрывага.
А ў таго хлопца кучары ўюцца,
За яго кудры, эй, дзяўчаты б'юцца.
-- Вы не біцеся, не сварыцеся,
За мае кудры, ой, памірыцеся.
Бо мае кудры, кудры не для вас,
Ёсць у мяне дзяўчына -- лепшая ад вас.
Яна мяне ў бой выправажала,
Яна мае кудры да пазавівала.**

[1] Другі радок спяваецца двойчы.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 334. Падпісана да друку 14. 3.1994 г.